PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 7 (2179) Год XLIII Беласток 15 лютага 1998 г. Цана 1 зл.



*Удзельнікі адкрыцця Цэнтра (злева): Алег Латышонак, Вінцук Вячорка, Артур Смулка.* Фота Марка ДАЛЕЦКАГА

# Цэнтр грамадзянскай адукацыі

31 студзеня г.г. у Беластоку адбылося ўрачыстае адкрыццё Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь. Ініцыятарамі ўтварэння Цэнтра былі былы пасол Сейма РП Артур Смулка, старшыня Беларускага саюза Яўген Вапа, наш рэдакцыйны калега Алег Латышонак і Марцін Рэмбач, былы публіцыст мясцовай прэсы. Стваральнікі гэтай установы атрымалі падтрымку вядомых польскіх палітыкаў і грамадскіх дзеячаў, а Яцак Курань, Збігнеў Буяк, Рышард Бугай, Караль Мадзалеўскі, Балеслаў Сулік, Анджэй Закшэўскі сталі членамі Праграмнай рады Цэнтра. Мэта, якую паставілі сабе арганізатары — дапамога беларускай дэмакратыі. У сувязі з тым плануюцца семінары, канферэнцыі, курсы для журналістаў, прафсаюзных дзеячаў, вучоных, моладзі, будучых самаўрадавых дзеячаў.

На адкрыцці Цэнтра з Беларусі прыехалі знакамітыя прадстаўнікі тамашняй апазіцыі — Вінцук Вячорка, Станіслаў Шушкевіч, Георгій Таразевіч, Віктар Івашкевіч, Алег Трусаў. Урад Беларусі прадстаўляў генеральны консул Рэспублікі Беларусь у Беластоку Мікалай Крэчка.

Віктар Машчыньскі, прадстаўнік галоўнага спонсара канферэнцыі, якім быў Вэстмінстэрскі фонд (Вялікабрытанія), заўважыў, што ва ўмовах дэмакратыі нават амерыканскі прэзідэнт раптам становіцца звычайным чалавекам, якога можна прыцягнуць да юрыдычнай адказнасці. Таму для дэмакратыі не можа быць ніякай альтэрнатывы. Яўген Вапа выказаў свае меркаванні наконт дапамогі развіццю дэмакратычных працэсаў на Беласточчыне і ў Беларусі. Вінцук Вячорка, намеснік старшыні Беларускага народнага фронту прабаваў адказаць на пытанне: ці ў Беларусі ёсць дыктатура. Сітуацыю ў Беларусі параўнаў ён да Нямеччыны ў палове трыццатых гадоў. „Наша дыктатура, аднак, непаўторная, — гаварыў Вячорка. — Адрозніваецца яна тым ад Ірака, Кубы, Паўночнай Карэі, што накіраваная на знішчэнне краіны, якой кіруе". Станіслаў Шушкевіч заявіў, што беларуская эліта дзейнічае паводле чужых узораў, таму ўся яе дзейнасць безвыніковая. Людзі, якія арганізавалі подпісы пад „Хартыяй '97", паводле Шушкевіча, хацелі перш за ўсё звярнуць увагу на сябе. Георгій Таразевіч, былы пасол Беларусі ў Польшчы, паставіў прысутным былым дэпутатам закід, што гэта яны садзейнічалі стварэнню закону аб выбарах і рэферэндумах, якія дазволілі легітымнымі метадамі пабудаваць дыктатуру. Цяпер Лукашэнка назначае парламент, выканаўчую ўладу, суды, пракурораў. Расіі ніякая дэмакратыя ў Беларусі непатрэбная. Калі б нехта іншы кіраваў краінай, Масква мусіла б плаціць вялікія сумы за транзіт. Лукашэнка — паводле Таразевіча — не мае выбару. Расія — гарант яго нага панавання.

Паслы польскага Сейма ад АВС — Анджэй Ануш і Пётр Вуйцік — выказалі маральную падтрымку беларускім дэмакратам, а дзяржаўны сакратар кабінета прэм'ер-міністра Ежы Марэк Навакоўскі расказаў пра вялікае зацікаўленне Захаду поспехамі дэмакратыі ў Беларусі. Шушкевіч рэплікаваў, што ніхто на тым жа Захадзе, пакуль што, не асмеліўся звярнуць увагу Расіі на сітуацыю ў Беларусі.

Другога дня нарадаў рэдактары „Свабоды" (цяпер „Навінаў") — Ігар Гермянчук, „Пагоні" — Мікола Маркевіч і „Рабочага" — Віктар Івашкевіч расказалі пра сітуацыю незалежнай прэсы ў Беларусі. Няспынныя фінансавыя кантролі, штрафы, судовыя працэсы, перашкоды ў распаўсюджванні не дазваляюць газетам, якія не знаходзяцца пад кантролем рэжыму, на нармальнае развіццё. Толькі Івашкевіч сказаў, што выдае сваю газету без ніякага дазволу, не плаціць ніякіх падаткаў і не лічыць патрэбным дзейнічаць згодна з абавязваючым заканадаўствам, таму, што ўлада, а ў прыватнасці сам прэзідэнт, ніколі не прытрымлівалася законаў, нават тых, якія сама стварыла.

Генеральны консул РБ Мікалай Крэчка жадаў беларускай апазіцыі быць такой цывілізаванай як апазіцыя ў Польшчы. Артур Смулка рэплікаваў: „Якая ўлада, такая апазіцыя". **(ям)**

*Выказванні Станіслава Шушкевіча і Георгія Таразевіча чытайце таксама на 4 старонцы.*

## У нумары

# Мы прачыталі

*Для вясковых жыхароў справа культуры мала важная. Ім бы паесці, выпіць, паспаць, схадзіць на работу і адбыць абы дзень да вечара. Але дзе тут культура, калі наўкола беднасць, нястача, адсутнасць грошай, а замест культуры тут на покуце п'янства, бойкі, плёткі, скандалы, поўнае раўнадушша да ўсяго, нават да ўласнага жыцця. Што ж гэта за ўлада ў нас такая ўсталявалася, што за сістэма, што гэтак бессаромна ва ўсе часы здзекуецца з сялян, прымушае губляць іх чалавечую годнасць. Негры з якоганебудзь племя, індзейцы, чукчы, якуты Амерыкі, Аляскі, Канады жывуць нават у рэзерватах непараўнальна лепш чым селянін у незалежнай, праваcой, недыктатарскай краіне пад назвай „Рэспубліка Беларусь".*

*Народная воля, н-р 8*

На Беласточчыне амаль таксама.

* * *

*Нацыянальнае адраджэнне Беларусі гэта ратаванне нацыі і дзяржавы ад гістарычнай і этнічнай згубы. І не толькі таму, што ёсць замежныя сілы, якія хочуць пазбавіць нас незалежнасці і адметнасці і ўніфікаваць з сабою, але і таму, што сярод нас саміх ёсць гатовыя аддаць сваю незалежнасць за нішто. Гэта ўнутраныя акупанты і калабаранты. Свабода перашкаджае толькі рабам. Беларусь, як украдзенага каня цягнуць да сябе зладзеі, а ім яшчэ дапамагаюць свае „памяркоўныя" здраднікі. Зладзеі Беларусі гэта замежныя шавіністы, унутраныя акупанты і нашы калабаранты.*

*Наша ніва, н-р 1*

* * *

*Jak długo, pańskim zdaniem, utrzyma się koalicja AWS—UW? — zapytał dziennikarz Janusza Korwina-Mikke. — Tak długo, dopóki ostatnia posada nie zostanie rozdana — odpowiedział były lider UPR.*

*Polityka, nr 4*

* * *

*Мы павінны ставіць помнікі, называць вуліцы, вешаць партрэты тых, хто зласжыў галаву ў змаганні за Беларусь. Мы ніколі не аддадзім ім належную пашану, усё што ім належыць яны атрымаюць у небе, ад Бога, бо яны зрабілі так, што частка з нас памятае, што мы — Беларусы! Не важна хто ёсць чалавек — беларус, рускі, ці негр, галоўна каб любіў ён краіну, у якой жыве — Беларусь. А калі ты толькі „белорусский человек" (быдла), ці проста іншаземец, які плюе з вялікай пагарды на ўсё беларускае — вон з гэтай зямлі. Лепш уцякай зараз, бо потым будзе позна. Калі з'явяцца сотні тысяч беларусаў на вуліцах, ды яшчэ мабыць з аўтаматамі ў руках, гэта будзе дзень Страшнага Суда. Вось тады ўсё гэтае быдла і іх гаспадары-чужынцы стануць на калені...*

*Маладзёвы веснік, н-р 5*

Беларуская моладзь перастала ўжо звяртаць увагу на Шарэцкіх, Карпенкаў, Шушкевічаў, Пазьнякоў, Статкевічаў, Дабравольскіх. З лукашыстамі вырашылі яны размаўляць толькі на вуліцы.

* * *

*Лукашызм — варыянт сталінізму. Пад такім загалоўкам паказаўся камунікат Еўрапейскага Парламента.*

*Беларус, н-р 449*

* * *

*Atmosferę panującą w Białym Domu można określić jako „panika". Dziennikarze zajmowali się wyłącznie kolejnymi nieoficjalnymi kontaktami erotycznymi prezydenta Clintona. Każda konferencja prasowa Clintona zamieniała się w zeznania prezydenckie na temat życia seksualnego.*

*Gazeta Wyborcza, nr 21*

Шкада, што ў нас няма такога прэзідэнта. Газеты былі б цікавейшымі.

* * *

*W Polsce więcej kobiet niż mężczyzn przyznaje się do zdrad małżeńskich. Obala to mit, że matka-Polka stoi na straży domowego ogniska, a życie seksualne traktuje wyłącznie jako małżeński obowiązek.*

*Polityka, nr 4*

* * *

*Прэзідэнт А. Р. Лукашэнка запатрабаваў ад пракуратуры ўзмацнення барацьбы з парушэннямі законнасці з увагі на пастаянны рост злачыннасці.*

*Звязда, н-р 13*

Хапае прэзідэнту выдаць загад і злачыннасць згіне.

* * *

*Kolega z wojska jest wyższym stopniem kolegi, kolegą, z którym dzieliło się doświadczenie obowiązku „ochrony niepodległości i niepodzielności kraju". To doświadczenie jest natomiast poczuciem triumfu w świecie absurdu, w którym zgodnie z regulaminem możliwe jest wszystko oprócz założenia hełmu na lewą stronę. Wojsko zbliża ludzi. Pytanie tylko — do czego?*

*Gazeta—Magazyn, nr 4*

Да жывёлы.

* * *

*Для многіх беларусаў Польшча была адзіным вакенцам на Захад. Цяпер для большасці нашых суграмадзянаў гэтае вакенца зачыненае. Для перасячэння мяжы неабходна мець спецыяльнае запрашэнне польскага боку, засведчанае на ўзроўні вавводы, або вялікі грашовы заклад. Яшчэ раней перад беларусамі былі зачыненыя беларуска-летувіская і беларуска-латвійская межы, дзе ўведзены візавы рэжым. Суседзі адгароджваюцца ад нас.*

*Пагоня, н-р 2*

За рэферэндумы трэба будзе плаціць яшчэ доўгія гады.

# З мінулага тыдня

**Лідэры** праваслаўных і беларускіх арганізацый накіравалі адкрытае пісьмо прэм'ер-міністру **Ежы Бузку**, у якім выказваюць сваю незадаволенасць з прычыны змяншэння напалову датацыі на рамонт Супрасльскага манастыра. Нагадаем, што 15 кастрычніка 1997 г. уступаючы прэм'ер-міністр **Уладзімеж Цімашэвіч** прызначыў Беласточчыне 1,5 млн. зл. з дзяржбюджэту, у тым ліку 600 тыс. на рэстаўрацыю лаўры. У снежні мінулага года новы прэм'ер зменшыў прапанаваную сваім папярэднікам датацыю. Аўтары ліста ўпікаюць кіраўніка ўрада ў тым, што паслухаў ён унушэнняў беластоцкіх дзеячаў АВС „Салідарнасць", якія святую справу аднаўлення Супрасльскай лаўры выкарысталі для барацьбы з палітычнымі праціўнікамі.

**Урад Ежы Бузка** знойдзе грошы на завяршэнне рэстаўрацыі Супрасльскага манастыра, — заявіў у Беластоку **Ежы Марэк Навакоўскі**, дзяржаўны сакратар у Канцылярыі прэм'ер-міністра. — Урад прыме адпаведныя меры. Калі ўзнікне скандал, тады цяжэй будзе прымаць рашэнні.

**Новы закон аб іншаземцах** з'яўляецца доказам таго, што польскі ўрад адчувае сябе ў большай ступені паслом Еўрапейскага Саюза ў Польшчы, чым прадстаўніком інтарэсаў сваіх грамадзян. Гэты закон можа давесці да заняпаду гаспадарчых кантактаў з усходнім рынкам, — сказаў лідэр Уніі рэальнай палітыкі **Станіслаў Міхалькевіч**. На думку лідэра гэтай партыі, шматлікая група польскіх грамадзян можа страціць крыніцу даходаў. Галоўным чынам датычыць гэта дробных прадпрымальнікаў, якія займаліся вытворчасцю на патрэбы базарнага гандлю, а гэтая форма тавараабмену якраз заміраe пасля ўступлення ў сілу закона, які абвастрае крытэрыі ўезду грамадзян іншых краін у Польшчу. Паводле Міхалькевіча, гэтай сітуацыяй пакарыстаюцца прадпрымальнікі краін ЕС, якія запоўняць сваімі таварамі ўзніклы на ўсходнім рынку вакуум.

**Беластоцкія купцы** прыгразілі ўладам, што перакрыюць пагранпераходы, калі іх пратэст супраць абмежавання прыгранічнага абмену асоб не будзе станоўча разгледжаны. Такое рашэнне было прынята на нарадзе купцоў і гандляроў беластоцкіх базараў, сарганізаванай Саюзам ахоўы купцоў і работадаўцаў і Беластоцкай гаспадарчай ініцыятывай. Да нарады купцы яшчэ не атрымалі адказу на ліст, накіраваны міністру ўнутраных спраў.

**Урад** разглядае магчымасць часовага змякчэння закона аб іншаземцах, калі высветліцца, што ўвайшоўшыя ў сілу ў студзені г.г. абмежаванні адмоўна паўплываюць на ход развіцця прыгранічных тэрыторый, — заявіў у Беластоку міністр **Ежы Марэк Навакоўскі**. Аднак урад спадзяецца, што падзенне прыгранічнага руху было часовай з'явай, выкліканай недаінфармаванасцю грамадзян Расеі і Беларусі аб новым польскім законе. Калі за два месяцы сітуацыя не нармалізуецца, тады трэба будзе закон папраўіць, — дадаў міністр. — Крытэрыем ацэнкі адмоўнага ўплыву будуць м.ін. даследаванні тавараабароту на базарах і паступленне падатковых даходаў.

**Жыхары Чаромхі** патрабуюць, каб ваяводскія ўлады забаранілі мытным службам праводзіць кантроль аўтафураў у мястэчку. На іх думку, вялізныя грузавыя машыны на вузкіх вуліцах Чаромхі ўскладняюць дарожны рух, пагражаюць бяспецы шафёраў і пешаходаў ды забруджваюць выхлапнымі газамі паветра. Прапануюць яны перанесці мытны кантроль у Бельск-Падляшскі.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- Размова з бурмістрам Кляшчэляў.
- Юбілей арлянскіх пажарнікаў.
- Экуменічны сімпозіум у Ольштыне.

# Весткі з Беларусі

**Перавыхоўванне прэзідэнта**

Прэзідэнт Расеі Барыс Ельцын падчас уручэння прэмій і грантаў расейскім журналістам паабяцаў надаваць увагу свабодзе прэсы ў Саюзе Беларусі і Расеі і выказаў надзею, што прэзідэнт Лукашэнка будзе сталець. „Мы разам у Саюзе і будзем яго выхоўваць, у тым ліку сродкамі масавай інфармацыі", — сказаў расейскі прэзідэнт.

**Амерыканская крытыка**

Дзярждэпартамент ЗША прадставіў Кангрэсу штогадовую справаздачу аб стане правоў чалавека ў свеце, у якой крытычна ацэнена сітуацыя ў Беларусі. У справаздачы гаворыцца: „Стаўленне ўлад да правоў чалавека зноў значна пагоршылася ў той час, як прэзідэнт працягвае весці Беларусь назад, да аўтарытарнай палітыкі савецкага часу". У справаздачы адзначаецца, што ў руках прэзідэнта сканцэнтраваная амаль уся ўлада. Ён кантралюе парламент і суды, яму падпарадкаванае КДБ і міністэрства ўнутраных спраў. Лукашэнкаўская служба бяспекі стаіць па-за судовым і заканадаўчым кантролем і выкарыстоўваецца супраць палітычных ворагаў. Дзярждэпартамент адзначае, што службы бяспекі летась шматразова парушалі правы чалавека ў Беларусі. Яны беспадстаўна арыштоўвалі і затрымлівалі грамадзян, зняволеных і затрыманых рэгулярна збівалі і прымушалі знаходзіцца ў жорсткіх, дрэнных умовах. У справаздачы Дзярждэпартамента Кангрэсу ЗША падкрэсліваецца, што ў Беларусі парушаліся правы асобы на прыватнае жыццё, вялося пільнае сачэнне за апазіцыяй, узраслі забароны ў галіне свабоды слова і прэсы, абмежаваны правы мірных сходаў і дэманстрацыяў.

**Ашмянскі прыгавор**

У Ашмянах завяршыўся судовы працэс па справе супрацоўнікаў расейскага тэлебачання ОРТ Паўла Шарамета і Дзмітрыя Завадскага, якія абвінавачваліся ў незаконным перасячэнні беларуска-літоўскай дзяржаўнай мяжы, а Павел Шарамет — яшчэ ў перавышэнні службовых паўнамоцтваў. Суд вырашыў назначыць Паўлу Шарамету пакаранне два гады, а Дзмітрыю Завадскаму паўтара года пазбаўлення волі ўмоўна з выпрабавальным тэрмінам адзін год кожнаму. Па факце злоўжывання службовым становішчам Павел Шарамет апраўданы.

**Гандлёвы дэфіцыт**

Летась не ўдалося забяспечыць апераджальных тэмпаў росту экспарту над імпартам. Яго вынік — павелічэнне дэфіцыту гандлёвага балансу амаль да паўтара мільярда долараў, што на 36% болш за ўзровень адпаведнага перыяду 1996 года. У асноўным такое становішча звязана з кан'юнктурай коштаў у знешнім гандлі. Калі сярэднія экспартныя цэны летась амаль не змяніліся, то цэны на імпартныя тавары з краін СНД павялічыліся на 5%, а з краін далёкага замежжа — на 4%.

**Паўнапраўны член**

Нацыянальная авіякампанія „Белавія" стала паўнапраўным членам Міжнароднай асацыяцыі паветранага транспарту. Гэтая найбуйнейшая ў свеце арганізацыя паветраных перавозчыкаў налічвае сёння каля 260 кампаній, у якіх праводзіцца 98% аб'ёму міжнародных паветраных перавозак. Членства ў міжнароднай арганізацыі дазволіць „Белавіі" развіць новыя формы супрацоўніцтва, павысіць вытворчасць і эфектыўнасць, атрымаць доступ да сусветных крыніц навейшай тэхнічнай, праваcой, эканамічнай інфармацыі і атрымаць кваліфікаваную кансультацыйную дапамогу.

**Новыя стаянкі**

Статыстыка сведчыць, што да 2000 года на тысячу жыхароў Менска будзе прыпадаць 145 аўтамабіляў. І хоць гэты ўзровень па-ранейшаму застаецца ніжэйшым за еўрапейскі, галоўным болем для гарадскіх улад будуць аўтастаянкі, асабліва ў цэнтры горада. На сённяшні дзень Менск забяспечаны аўтастаянкамі толькі на 40%. Сталічныя ўлады прынялі праграму, згодна з якой павялічваецца колькасць кароткачасовых стаянак для транспартных сродкаў. Вырашана перанесці еўрапейскі вопыт будаўніцтва шмат'ярусных аўтастаянак. Ужо ўзводзіцца такая стаянка на 500 месц у раёне Камароўскага рынку.

# „Ніва” зноў дэмаралізуе

Чарговае пасяджэнне Сеймавай камісіі па справах нацыянальных меншасцей, якое адбылося 4 лютага г.г., прысвечана было беларусам. Старшыня камісіі Яцак Курань запрасіў у Сейм прадстаўнікоў беларускіх арганізацый і ім аддаў голас, каб маглі яны расказаць пра свае праблемы. Першы ўзяў голас Пятро Крук, які закрануў справу ўрадавай датацыі на рамонт будынкаў Супрасльскага манастыра. Пасля гэтая тэма пастаянна вярталася ў выказваннях Яўгена Чыквіна, Яўгена Вапы і пасла Сяргея Плевы. Гэты апошні заявіў, што справу Супраслі выклікаў былы віцэ-ваявода Гжэгаж Рыкоўскі (сябра сялянскай партыі ПСЛ), які запрапанаваў прэм'ер-міністру Бузэку палову прызначаных раней на Супрасльскі манастыр грошай аддаць на рамонт касцёла ў Харошчы.

Пасол ад Саюза левых дэмакратаў Ян Сычэўскі, пасля традыцыйнага даклада пра дасягненні БГКТ, пачаў расказваць пра тое, як гэтыя дасягненні прадстаўляюцца ў сродках масавай інфармацыі. „Ацэньваюць нас у спосаб амаральны, некампетэнтны, непрафесійны. Цяжка знайсці хаця б адзін нумар „Нівы”, дзе не было б паклёпаў на Таварыства, — гаварыў пасол Сычэўскі. — Журналісты пішуць, што атрымліваем нейкія гадзіннікі, тэлевізары ад Лукашэнкі. А гэта няпраўда. Праўдай ёсць, што тыя, што так гавораць, самі атрымліваюць ад гэтага самага беларускага ўрада больш чым мы”. Тут у дыскусію ўключыўся старшыня камісіі Курань і спытаў: „Скажыце, ці атрымліваеце вы гэтыя сувеніры, ці не. Раз гаворыце, што не атрымліваеце, а зараз пасля, што іншыя атрымліваюць больш за вас”. Сычэўскі растлумачыў, што члены Галоўнага праўлення часам атрымліваюць нейкія сувеніры ад Лукашэнкі ці прадстаўнікоў беларускага ўрада, аднак больш чым кіраўніцтва БГКТ атрымлівае беларускае прадшколле ў Беластоку. „Бацькі дзяцей з гэтага прадшколля, сказаў ён, — ставяць нам закід, што карыстаемся дапамогай ад Лукашэнкі, а самі бяруць падарункі з гэтай самай крыніцы”. Лідэр БГКТ прадэманстраваў такім чынам, як на практыцы трэба разумець словы: аб'ектывізм, маральнасць, праўдзівасць.

Палітычную думку пасла Сычэўскага прадаўжала актывістка БГКТ Тамара Русачык. Сказала яна, між іншым, што ў пачатковых школах беларускай мовы вучыцца 2 824 дзяцей, а ў бельскім і гайнаўскім ліцэях вывучае яе 966 дзяўчат і хлопцаў. Толькі 65 працэнтаў настаўнікаў мае адпаведную адукацыю, каб выкладаць гэты прадмет. Не маюць яны ніякіх дапаможнікаў у выглядзе беларускамоўнай газеты. „Ніва” не выкарыстоўваецца настаўнікамі па той прычыне, што яна дэмаралізуе моладзь. Гэта газета пляткарская, якая толькі паклёпнічае на беларускае асяроддзе, — лічыць Тамара Русачык.

Яўген Вапа расказаў пра гаспадарчую сітуацыю ўсходняй Беласточчыны, што можа яна ў недалёкай будучыні стаць толькі лясной прасторай. Закрытыя межы з Рэспублікай Беларусь пагоршаць і так ненайлепшае эканамічнае палажэнне гэтага кутка Польшчы. Вапа прадставіў таксама перспектывы развіцця беларускай культуры ў сітуацыі, калі большасць беларусаў жыве ў гарадах. Паводле старшыні Беларускага саюза, неабходны новыя формы дзейнасці дзеля паўстрымання працэсу маланкавай асіміляцыі маладога пакалення.

Ян Чыквін выказаў патрабаванне беларускага літаратурнага асяроддзя ў Польшчы мець свой літаратурны часопіс. Паслы, якія пасля выказваліся, заявілі пра сваю падтрымку для гэтай ідэі.

Вядучы сустрэчы, Яцак Курань, некалькі разоў пытаў прысутных дзеячаў, у якой форме Міністэрства культуры і мастацтва мае фінансаваць беларускія калектывы на Беласточчыне. Да гэтай пары ўся падтрымка праходзіла праз бюджэт БГКТ. Цяпер два калектывы — бельская „Маланка” і хор Гайнаўскага дома культуры — не карыстаюцца гэтым пасрэдніцтвам. Прысутны падчас сустрэчы ў Сейме Сяргей Лукашук сказаў, што раней толькі невялікая частка прызначаных калектыву грошай трапляла на патрэбы „Маланкі”; цяпер распараджаецца яна цэлай сумай міністэрскай датацыі. Сакратар БГКТ Валянціна Ласкевіч рэплікавала, што нармальную культурную палітыку і адпаведнае выкарыстанне датацыі можа гарантаваць толькі арганізацыя, якая ладзіць масавыя імпрэзы. Таварыства найлепш ведае, якія сродкі і якому калектыву патрэбны.

Падсумоўваючы дыскусію Яцак Курань сказаў: „Вас, апрача стану нацыянальнай свядомасці вашага грамадства, знішчаюць унутраныя сваркі. Усе жалі і прэтэнзіі маглі б вы сказаць сабе ў Беларусь. У Сейме трэба змагацца за справы цэлай меншасці”. Але ці калі-небудзь зразумеюць гэта „нашы хлопцы”, якіх былы прэм'ер-міністр Цімашэвіч забраў з сабою ў польскі парламент?

**Яўген Міргановіч**

# Стаднёўка '98

У суботу, 24 студзеня г.г., у Гайнаўскім беларускім ліцэі адбылася традыцыйная стаднёўка — школьная ўрачыстасць, якая праводзіцца за сто дзён да пачатку экзаменаў на атэстат сталасці. Упершыню ў гісторыі школы ў мерапрыемстве прымалі ўдзел пяць матуральных чацвёртых класаў, разам каля 130 вучняў і спадарожных ім асоб. Таксама ўпершыню стаднёўка адбывалася ў новай спартыўнай зале. Вучні да імпрэзы рыхтаваліся ўвесь тыдзень: малявалі дэкарацыі, падвешвалі да столі маскіровачную сетку, упрыгожвалі залу.

Урачыстасць пачалася а сёмай вечара традыцыйным паланезам і ў гэты момант здарылася прыкрая неспадзяванка — падвяла электрыка. На шчасце аварыю ўдалося ўстараніць вельмі хутка і паланез прыйшлося пачаць яшчэ раз. Затым былі тосты і сімвалічны келіх шампанскага ды кветкі для дырэкцыі ліцэя і выхавацеляў матуральных класаў. Ад імя бацькоў усіх удзельнікаў стаднёўкі прывітаў Ян Саевіч, а дырэктар ліцэя Яўген Сачко пажадаў усім добрай забавы. Ад імя вучняў прамаўлялі Тамаш Саевіч і Юліта Адамюк. Хаця сабралася мнагавата людзей, аднак у зале было прасторна. Пры добрай музыцы і багатых сталах вучні і госці весела гулялі да белай раніцы. А танцавалі яны пад гукі калектыву „Happy Singers”. Вялікай неспадзяванкай было выступленне квартэта, які састаўлялі вучні IV „б” класа: Аркадзь Гаўрылюк, Тамаш Ціханюк, Тамаш Такаюк і Адрыян Баравік. Два апошнія так нагрыміраваліся, што сваім выглядам напаміналі славутых салістаў калектыву „Blues Brothers”. Чацвёртакласнікі яшчэ раз паказалі сваю таленавітасць і праспявалі многа народных песень.

Гэта была пятая ў маім жыцці і заадно мая першая ў ролі настаўніка стаднёўка. Уразіла мяне сардэчным настроем, які садзейнічаў добрай забаве. За гэта ад свайго і ўсіх настаўнікаў імя дзякую бацькам нашых выхаванцаў.

**Славамір Кулік**

# Будуць ушанаваны

Канец студзеня, пачатак лютага — гэта сумная для беларусаў Беласточчыны гадавіна. У зімовыя дні 1946 года крывавым рэйдам прайшоўся па вёсках Бельшчыны атрад польскага падполля, якім камандаваў Рамуальд Райс- „Буры”.

У нядзелю 1 лютага ў Свята-Троіцкай капліцы на могілках у Бельску-Падляшскім а. Фёдар Белаказовіч адправіў паніхіду па закатаваных атрадам каля вёскі Пухалы-Старэ трыццацёх сялянах, што былі забраны з падводамі ў лесе ў Лазіцах, у Вольцы-Выганоўскай і Красным Сяле. Летась іх астанкі былі эксгумаваны ў месцы злачынства і на каталіцкіх могілках у Кліхах ды перавезены на вайсковыя могілкі ў Бельску. Цяпер сем'і нявінна загінуўшых ахвяр намагаюцца на брацкай магіле паставіць помнік. Ужо гатовы праект — невялікі курган з праваслаўным крыжам і трыма дошкамі, на якіх будуць пералічаны прозвішчы вазакоў і пададзены ахвяры спаленых беларускіх вёсак. Будзе ён сведчыць пра злачынства і ўшаноўваць памяць закатаваных людзей. А іх нашчадкам, родным, будзе дзе сабрацца і памаліцца за ўпакой душаў.

Планаваны кошт помніка — 20 тысяч злотых. На сённяшні дзень на банкаўскі рахунак паступіла ад ахвярадаўцаў чвэрць гэтай сумы. Грамадскі камітэт сем'яў закатаваных вазакоў хоча ўжо ў лютым знайсці выканаўцу і даручыць яму будову помніка.

**М. В.**

Банкаўскі рахунак, на які можна пералічваць ахвяраванні: Zarząd Koła Miejskiego ZKRPiBWP, PKO BP w Bielsku Podlaskim, nr 10201345-3013-270-1 (Pomnik).

# Да ўвагі ветэранаў

Беластоцкае ваяводскае праўленне Згуртавання палякаў пацярпелых ад III Рэйха сардэчна запрашае на ўрачыстасць пасвячэння і ўручэння Згуртаванню сцяга. Пачнецца яна **13 лютага 1998 г.** (пятніца) **а $10^{00}$ гадз. імшой** у саслужэнні праваслаўнага і каталіцкага капеланаў **у касцёле св. Станіслава** па вул. Кавалерыйскай у Беластоку. Пасля адбудзецца сустрэча ў Гарнізонным клубе вайсковай часці (вул. Кавалерыйская 70). Выступяць таксама вайсковы аркестр і хор „Каліна”. **(лук)**

# Перарэгістрацыя БДА

На працягу ўжо сямі гадоў дзейнічае Беларускае дэмакратычнае аб'яднанне ў Польшчы — БДА. 27 чэрвеня 1997 года Сейм прыняў новы закон аб палітычных партыях, які прыводзіць у парадак палітычную сцэну краіны, на якой выступала ажно 360 разнавідных партый. Каб зарэгістраваць партыю трэба цяпер не 15 а 1 000 прыхільнікаў. Перарэгістрацыя датычыць таксама і БДА.

У снежні 1997 года сябрамі партыі сабрана было звыш 1 000 подпісаў ад насельніцтва ўсходняе Беласточчыны. Старшыня Галоўнай рады БДА Пятро Крук паведаміў, што заява аб перарэгістрацыі была накіравана ў Ваяводскі суд у Варшаве 31 снежня 1997 года. Пакуль што, сябры БДА чакаюць пастановы суда.

**Ірэна Матус**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

# Яшчэ каб з галалёдзіцай справіцца

Люты прывітаў нас мяцеліцай. Дарогі засыпала снегам.

Калі я выйшаў на панадворак і стаў адкідаць сцежкі да хаты, гмінны трактар са снегаачышчальным плугам расчышчваў вуліцу. Значыцца, нехта пра гэта думае. Яшчэ нядаўна пісаў я, што кузаўцы вядуць барацьбу са снегам на сваёй вуліцы і коўзаюцца ў час галалёдзіцы.

Усё адмянілася, калі гміна купіла сабе трактар. Вельмі добрая справа для асяроддзя! Толькі той адзін трактар гэта малавата на ўсю гміну.

Аднак войт Чаромхаўскай гміны так прыдумае, што і „воўк будзе сыты, і авечка цэлая”. Пагодзіць кожнага: чарамшука з кузаўцам і ставішчука з лянінам. Таму людзі не скардзяцца, чаму дарогу прачысцілі раней у вёску Чаромху, а не ў Кузаву ці Ставішчы.

Значыцца, са снегам мы справімся. Каб яшчэ так з галаледзіцай! Праўда, нешта робіцца і ў тым напрамку. Аднак пасыпванне вуліцы пяском рыдлёўкай уручную з трактара не дае такога рэзультату. Пяску малавата сыплюць. А каб восенню навезці яго ў вёскі і зваліць побач вуліцы — мо кожны і сам пасыпаў бы вуліцу насупраць сваёй сядзібы?

**Уладзімір Сідарук**

# Месца, дзе спыніўся час

Нядаўна пабывала я ў Студзіводах у прыватным музеі Дарафея Фіёніка. Хатка-музей пабудавана была ў канцы XIX стагоддзя. У сярэдзіне — гліняная печ з плітой, вялікі драўляны стол, лавы, сундук, якія помняць часы бежанства, як і многія прадметы шырокага ўжытку. На сценах вісяць макаткі, ільняныя ручнікі, у вокнах — белыя занавескі. Нідзе знаку электрычнасці. Няма гадзінніка, тэлевізара, радыёпрыёмніка.

Седзячы тут і размаўляючы з гаспадаром, складаецца дзіўнае ўражанне, быццам бы спыніўся час. Заворожвае цудоўная цішыня, някранута водгукамі цывілізацыі. У такім месцы важным становіцца чалавек, а не тэхніка, якой рабамі мы ўжо даўно сталі. Прабыванне тут спрые роздумам над нашымі каранямі. Размову можна працягваць вельмі доўга, а здаецца, што быццам бы прайшла толькі хвіліна. На гэта звярнуў увагу таксама і гаспадар, кажучы, што многія наведвальнікі пацвярджаюць гэтую своеасаблівую атмасферу. Гэта ж месца, дзе даўно спыніўся час. Шкада толькі, што такіх месц ужо амаль няма.

**Галіна Аўсянюк**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

# Мінская панарама

*(заканчэнне;
пачатак у папярэднім нумары)*

**Толькі мастацтва вечнае**

Нягледзячы на ўсю шызафрэнічнасць пануючага ў Беларусі савецкага парадку, жыццё ў Менску плыве як у нармальным сталічным горадзе. Большасць жыхароў займаецца сваімі бытавымі праблемамі. Так як у кожным кутку свету людзі думаюць пра сям'ю, каханне, сяброў, ворагаў, грошы, адпачынак і г.д. Пра палітыку гавораць яны няшмат, а прытым лічаць яе нечым брудным, немаральным.

16 студзеня на Траецкім прадмесці, у галерэі „Жильбел" адкрывалі выстаўку твораў 11 мінскіх мастакоў. Усе выстаўленыя творы аб'ядноўвала адна тэма — прывабнасць жаночага цела. Дзве гадзіны да адкрыцця выстаўкі арганізатары наладзілі прэс-канферэнцыю. Рэдакцыі прыслалі выключна жанчын, якія перш за ўсё хацелі даведацца пра асабістыя кантакты мастакоў з натуршчыцамі. Асабліва цікавіла іх ці падчас творчага працэсу паміж тымі двума аб'ектамі выступалі нейкія эмацыянальныя сувязі. На вызначаны час адкрыцця выстаўкі з'явілася каля 300 чалавек, не ўсе нават змаглі памесціцца ў экспазіцыйнай зале. У той жа дзень у Оперным тэатры ставіўся балет „Страсці Рагнеды". Хаця білеты каштавалі ажно 100 тысяч рублёў (2,5 дол.), не было ніводнага свабоднага месца. На наступны дзень таксама шматлікую публіку прыцягнула опера Вердзі „Травіята". Каб увайсці ў Тэатр імя Янкі Купалы, трэба было прасіць мінскіх калег дапамагчы набыць білет. У Эксперыментальным, дзе калектыў паказваў анатомію дыктатуры паводле „Макбета" Шэкспіра, быццам бы не было месца нават для стаяння.

Мінчане як бы ўцяклі ў свет ілюзіі. Магчыма, што яны ў мастацтве шукаюць адказаў на пытанні, якія ў апошніх гадах паставіла ім жыццё. Цяпер у Беларусі лічыцца кожны жэст, падтэкст, анекдот. Дарэчы, прэзідэнт Беларусі стаў галоўным героем усялякіх жартаў. Значна апярэдзіў ён у гэтай галіне генсека Брэжнева.

**БНФ рыхтуе пераварот**

Па прэзідэнцкім тэлебачанні заявілі, што Пазьняковы нацыяналісты рыхтуюць дзяржаўны пераварот. Нейкі камсамолец, па прозвішчы Аляксандр Зімоўскі, быццам бы адгалы экспанат бальшавіка 1938 года, дэталёва тлумачыў хто з дзеячаў Фронту і колькі мільёнаў долараў атрымаў на змаганне з усенароднаабраным прэзідэнтам. Вінцук Вячорка, які — паводле Зімоўскага — разбагацеў з бюджэту ЦРУ на 3,8 млн. сказаў, што задаволіўся б каця б адным працэнтам ад гэтай сумы.

Сойм БНФ, які засядаў 17 студзеня, займаўся перш за ўсё ўнутранымі канфліктамі. Адсутнасць Пазьняка выклікае штораз больш выразнае змаганне за ўладу ў арганізацыі. Уся гэтая тусоўка выглядала як рулетка на „Тытаніку". Фронтаўцы прынамсі, як адзіная арганізацыя ў Беларусі, усе прынцыпова размаўляюць на беларускай мове.

Дзень раней у сядзібе Свабодных прафсаюзаў Беларусі, што па вуліцы Энгельса, сабраліся лідэры апазіцыйных партый, каб абмеркаваць формы супрацоўніцтва з Беларускім бюро, якое нядаўна было адкрыта ў Брусэлі. Сход вёў былы віцэ-міністр замежных спраў Андрэй Саннікаў. Антылукашэнкаўскія апазіцыянеры ў знакамітай большасці размаўлялі на расейскай, лукашэнкаўскай мове. Дзве гадзіны змагаліся яны з ветракамі, а пасля разышліся.

Безумоўна, вялікім дасягненнем Лукашэнкі з'яўляецца маргіналізацыя апазіцыі, якая ў сапраўднасці зведзена цяпер да дэкаратыўнай ролі. І толькі паталогія савецкага менталітэту пхае рэжым да змагання з ценямі, прывідамі, прыдуманымі загаворшчыкамі. Беларуская апазіцыя не адсуне прэзідэнта ад улады. Могуць яго яе пазбавіць маскоўскія таварышы, калі так ім будзе выгадна. Другую пагрозу для рэжыму нясе яго абсурдная падатковая палітыка. Ненасытнасць Ціцянкова, галоўнага адміністратара маёмасці Лукашэнкі, замарожвае гаспадарку. Падаткамі і фінансавымі кантролямі прыкончана ўжо большасць малых прыватных фірмаў. Зразумела, што рэжыму патрэбны грошы на ўтрыманне арміі ўсялякіх вахцёраў і кантралёраў, але фіскалізм, здаецца, дасягнуў апошніх межаў. Беларус наогул усё перанясе і нават у жалюгодным становішчы будзе паўтараць: „Каб толькі горш не было". Але шмат маладых людзей пачынае ўжо ўсведамляць, што ў іх толькі адно жыццё.

Ад 15 да 21 студзеня цана долара павышалася штодзённа на 500 беларускіх рублёў. 21 студзеня ў абменных пунктах Белбанка плацілі 41 500 рублёў за адзін долар, а прадавалі па 42 500. За польскую златоўку банкі плацілі 12 000 рублёў. Інфляцыя тут вялікая, нават ва ўмовах беларускай эканомікі.

**Бог разумее беларускую мову**

Пры саборы св.св. Пятра і Паўла дзейнічае Брацтва Трох Віленскіх Мучанікаў, якім кіруе Мікола Матрунчык. 15 студзеня братчыкі наладзілі дыскусійны панэль з удзелам выдатных прадстаўнікоў мінскай інтэлігенцыі і святароў. Сабралася каля 70 чалавек. Дыскусія вялася на тэму перспектываў увядзення беларускай мовы ў царкоўнае жыццё. Усе прысутныя гаварылі на беларускай мове. Прытым адкрытасць дыскусіі была проста імпазантная. Некалькі разоў прыпаміналася прызабытая праўда, што Царква — гэта не мітрапаліты, архіепіскапы і святары, што Царква — гэта проста супольнасць вернікаў. Прафесары Уладзімір Конан і Анатоль Клышка гаварылі пра памылковыя меркаванні царкоўнай іерархіі наконт беларускай мовы, вядомыя інтэлектуалы Леанід Дзягілеў і Аляксей Дудараў ставілі пытанне: Ці можа святар асвячаць танкі і ядзерныя ракеты ды што гэта мае супольнага з хрысціянствам? З прычыны русіфікаванасці большасці вернікаў прысутныя пагаджаліся, што беларускую мову ў царкоўны ўжытак трэба ўводзіць вельмі памяркоўна. Святары паўтаралі свой стары тэзіс, што няма адпаведных перакладаў літургічных тэкстаў і таму немагчыма поўнасцю служыць літургію на беларускай мове, а прытым, аргументавалі, старажытнаславянская мова — таксама свая.

19 студзеня ў чарзе за свянцонай вадой каля сабора Св. Тройцы стаяла пару тысяч людзей. За парадкам сачылі два міліцыянеры. Таксама пры ўваходзе ў царкву, пры кожных дзвярах сталі міліцыянеры, але цяпер толькі дзеля парадку, хаця па прывычцы ўнутры храма не здымалі шапак, упрыгожаных як і раней сярпом і молатам.

**Яўген Мірановіч**

# Іначай жыць

**Станіслаў ШУШКЕВІЧ — былы старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Цяпер — старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады. Партыя пакуль не зарэгістраваная.**



***— Ці арганізацыя ў Беластоку Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча—Беларусь і яго праца тут можа мець рэальны пераклад на фармаванне грамадскай думкі і свядомасці ў Беларусі?***

— Я лічу, што калі работа Цэнтра будзе арганізавана разумна, з улікам беларускіх рэалій, а на інаўгурацыйны сход прыехалі прадстаўнікі розных палітычных плыняў Беларусі — вынік будзе станоўчы. Я ў гэтым не сумняваюся. Вельмі важна тое, што Польшча перажыла ўжо тыя цяжкасці, якія перажывае сёння Беларусь. У Польшчы, як дзяржавы, вялікі вопыт. Мне асабіста шанцуе, бо маю я нагоду пабываць у многіх польскіх гарадах ды прыглядзецца што тут адбываецца і як жывуць людзі. Быў я ў Вроцлаве і ведаю, што там сталася ды ведаю як на гэта зрэагавала польская грамадства. Калі беларускае грамадства зразумее, што можна іначай жыць, дык гэтага будзе дастаткова.

***— Ці шмат складанасцяў у рэгістрацыі партыі ў Беларусі?***

— Скажу так: мы вывучаем гэтае пытанне такім чынам, каб складанасцяў гэтых не адчуць. Робім усякія прэвентыўныя крокі, каб пазбегчы іх. У Польшчы патрабуецца 1000 подпісаў у падтрымку партыі, а ў нас — 500 заяў. Але, калі адна асоба адмажацца ад падтрымкі — рэгістрацыйная працэдура зрываецца і нам вельмі цяжка тую асобу замяніць. Таму ўсе дакументы стараемся падаць у бездакорным выглядзе, а кожную заяву аб падтрымцы правяраем некалькі разоў на ўсякі магчымы лад.

***— Чаму прыхільнік можа адказацца ад падтрымкі?***

— Мы ўжо адчулі, што на гэта працуе ў нас праваахоўная сістэма, здольная на любы крок антыдэмакратычнага кшталту. Вось, была ў нас падазронасць, што ў дакументах некалькі выпадковых заяў. Мы паслалі лісты з просьбай адказаць нам. Адказ прыйшоў такі, што тыя асобы не жывуць і ніколі не жылі пад указанымі адрасамі. Таму да праваахоўцаў з боку нашай сістэмы выканаўчай улады нам трэба быць падрыхтаванымі вельмі акуратна.

***— Дзякую за размову.***

# На Крамлі — не дурні

**Георгій ТАРАЗЕВІЧ — былы пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы, а ў гады Савецкага Саюза віцэ-старшыя Вярхоўнага Савета СССР. Цяпер — дэпутат мінскага Гарадскога савета ды старшыня Цэнтральнай рэвізійнай камісіі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі „Народная грамада".**



***— Дзеячы апазіцыі ў Беларусі ды палітычныя каментатары падагравоюць погляд, паводле якога прэзідэнт Беларусі мецідь на Крэмль. Паводле Вас, чалавека з вопытам у палітыцы „агульнасаюзнага" маштабу, погляд такі мае рэальную аснову?***

— Я думаю, што прэзідэнт можа і мецідь, але рэальнай асновы дзеля гэтага няма. І не будзе — што б ён ні рабіў. У Маскве ж сядзяць не дурні. У адносінах паміж кіраўніцтвам Масквы і нашым кіраўніцтвам — іншая праблема. Тут разыгрываюцца вельмі тонкія інтарэсы, якія звязаны з геаграфічным становішчам Беларусі, а гэта: чыгуначныя і аўтамабільныя шляхі, газаправоды і вайсковыя аб'екты. Масква хоча перш за ўсё забяспечыць свае інтарэсы ў гэтым плане, а пры іншым кіраўніцтве ў Менску, ці пры іншай палітычнай сістэме ў Беларусі гэтага магло б і не адбыцца. Масква не хоча рызыкаваць. Што датычыць Лукашэнкі, як кіраўніка на Крамлі — гэта цалкам нерэальна.

***— Пасля таго як у Беластоку прайшоў мітынг у падтрымку свабоды слова ў Беларусі, з боку дзяржаўных прадстаўнікоў Беларусі адчувалася пазіцыя „не павучайце суседа як жыць"...***

— Гэта зусім няправільная пазіцыя ды не можа яна жыць у чалавечым грамадстве. Людзі ж вучацца адзін у аднаго, дзяржава ў дзяржавы, а нацыя ў нацыі. І калі хто-небудзь паводзіць сябе не так, дык іншыя могуць умяшацца, выказваючы сваю думку і адносіны. З дыпламатычнага пункту погляду таксама няма ў такой сітуацыі нічога дрэннага.

***— Дзякую за размову.***

**Гутарыў Аляксандр Максімюк**

*Фота Марка Далецкага*

# У Год Адама Міцкевіча

**З прафесарам Адамам МАЛЬДЗІСАМ, прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, дырэктарам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны гутарыць Ада ЧАЧУГА.**



***— Што прывяло Вас у Польшчу і Беласток на гэты раз?***

— Можа пачну ад таго, што прывяло мяне ў Польшчу. Было гэта вельмі прыемнае запрашэнне ад прэзідэнта Аляксандра Кваснеўскага прыняць удзел у якасці ганаровага члена Польскага камітэта па святкаванні 200-й гадавіны з дня нараджэння Адама Міцкевіча. 26 студзеня ў рэзідэнцыі прэзідэнта на Кракаўскім прадмесці адбылася інаўгурацыя Года Адама Міцкевіча.

***— Вы, здаецца, прывезлі ў Польшчу толькі што выдадзеную Цэнтрам імя Ф. Скарыны ў Менску кніжку „Адам Міцкевіч і Беларусь"?***

— Вядома ж! Мне было прыемна, што пры такой нагодзе я мог уручыць прэзідэнту гэту першую ластаўку святкавання Года Міцкевіча на Беларусі. Кніжка „Адам Міцкевіч і Беларусь" — своеасаблівы падручнік для ўсіх тых, хто захоча займацца Міцкевічам. Ёсць тут лепшыя артыкулы пра паэта беларускіх аўтараў — класікаў і сучасных, лепшыя вершы беларускіх паэтаў пра яго і, што, на маю думку, найбольш каштоўнае: бібліяграфія „Міцкевіч у друку Беларусі" (на розных мовах).

***— Ці першая „ластаўка" спадабалася прэзідэнту?***

— Прэзідэнт, здалося мне, быў выразна ўзрушаны, бо сказаў: „Widzicie Państwo, Komitet już zaczął działać!"

***— Прэзідэнт Аляксандр Кваснеўскі, як вядома, з'яўляецца ганаровым старшынёю Камітэта па святкаванні 200-й гадавіны з дня нараджэння Адама Міцкевіча...***

— ... А старшыня — прафесар Януш Адрованж-Пянёнжак, які на сустрэчы расказаў, што будзе зроблена ў Годзе Міцкевіча ў Польшчы і іншых краінах. Пасля быў наладжаны невялікі канцэрт, у якім прагучала і беларуская песня „Жураўлі на Палессе ляцяць" у выкананні артысткі з Брэста.

***— Ці былі ў Вас у Варшаве нейкія „рабочыя" сустрэчы?***

— 27 студзеня адбылося пасяджэнне Польскага камітэта, на якім я расказаў, што робіцца ў Год Міцкевіча, абвешчаны прэзідэнцкім указам, на Беларусі.

***— А што робіцца і што будзе зроблена?***

— Створаны дзяржаўны юбілейны камітэт, які распрацаваў цэлы шэраг урачыстасцей, імпрэз. Спынюся на галоўных.

У Завоссі — адным з магчымых месц нараджэння паэта — будзе аднаўлена сядзіба (ужо амаль усё гатова) і ў верасні будзе адчынены Музей Адама Міцкевіча.

У верасні ж у Навагрудку адбудзецца вялікае свята паэзіі, а навукоўцы збяруцца на міжнароднай канферэнцыі „Адам Міцкевіч у нацыянальных культурах". Асобна будуць разгледжаны праблемы „Адам Міцкевіч і яго эпоха", „Адам Міцкевіч і Янка Купала".

***— А што датычыцца выдавецкіх планаў, ці можна спадзявацца яшчэ нечага новага?***

— Услед за кніжкай „Адам Міцкевіч і Беларусь" пойдуць новыя выдавецкія ініцыятывы. Спынюся на дзвюх.

У трох кнігах (адзін футарал) будзе выдадзены „Пан Тадэвуш" — папольску, па-беларуску і па-руску — з ілюстрацыямі.

Будзе таксама факсімільнае сувенірнае выданне першай быліцы „Пана Тадэвуша" ў перакладзе Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, выдадзенай у Вільні ў 1859 годзе. Экземпляр для гэтага выдання бярэм з Ягелонскай бібліятэкі.

***— А што прывяло Вас у Беласток?***

— Пачну здалёк. У 1908 годзе ў Менску, пры так званым чырвоным касцёле, а фактычна касцёле святых Сымона і Галены была створана грамадская бібліятэка. У 1920 годзе яе вывезлі ў Польшчу і бібліятэка была расцярушана.

Гарадскія ўлады Беластока праявілі сімпатычную для нас ініцыятыву — **сімвалічна** вярнуць гэту бібліятэку ў Менск у выглядзе бібліятэкі класічнай і сучаснай польскай літаратуры. Сёння а 12-ай (*размова адбылася раніцай 30 студзеня — аўт.*) адбудзецца ўрачысты акт перадачы бібліятэкі Хрысціянскаму фонду, які існуе пры тым жа касцёле.

Ад нас прыехала дэлегацыя з шасці асоб, у тым ліку ксёндз Уладзіслаў Завальнюк з касцёла святых Сымона і Галены, работнікі Міністэрства адукацыі, Палаты прадстаўнікоў і Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Безумоўна, гэта акт у духу добрасуседства, добрай волі і прадаўжэння міцкевічаўскіх традыцый. Ініцыятывам няма канца. Вось перад самым ад'ездам я даведаўся, што ў Гародні ўзнікла задума стварыць грамадскі рэгіянальны інстытут Адама Міцкевіча — па вывучэнні яго жыцця і творчасці.

***— Дзякую за размову.***

*Фота Яна Мальца*



*Прэзідэнт Беластока Кшыштаф Юргель уручае акт перадачы бібліятэкі кс. Уладзіславу Завальнюку.*

# Школьныя элімінацыі ў Гайнаўцы

— У алімпіядзе прымае ўдзел многа вучняў. Найбольш заахвочваюць прывілеі, якія даюць вышэйшыя навучальныя ўстановы. Напрыклад, Варшаўскі універсітэт без экзаменаў будзе прымаць лаўрэатаў цэнтральных элімінацыяў нашай алімпіяды, між іншым, на беларускую, польскую і славянскую філалогіі, журналістыку, біялогію, хімію, матэматыку і геаграфію, — заявіла Агнешка Ярашук, вучаніца IV класа.

17 снежня 1997 года ў Гайнаўскім і Бельскім беларускіх ліцэях адбыліся школьныя элімінацыі IV Алімпіяды беларускай мовы. На гэты раз да алімпіяды ў Гайнаўцы прыступілі трыццаць два ліцэісты, сярод якіх найбольш было чацвёртакласнікаў. Пасля прывітання моладзі настаўнікі пазнаёмілі з тэмай пісьмовых прац: „Мае разважанні аб прачытаных творах". Некаторыя алімпійцы яшчэ крыху глядзелі на чысценькую паперу, думаючы пра сваіх улюбёных пісьменнікаў. Іншыя пачалі рабіць заметкі.

Калі настаўнікі пазней чыталі працы, высветлілася, што многа вучняў выказвала ўласныя рэфлексіі наконт напраграмнай прозы і паэзіі. Найбольш папулярнымі пісьменнікамі былі класікі беларускай прозы — Васіль Быкаў і Уладзімір Караткевіч. Псіхалагічны вобраз герояў Быкава знаходзіў адлюстраванне ў сучаснасці, а гістарычныя падзеі ў прозе Караткевіча захаплялі вучняў незвычайнасцю. Мелі сваіх прыхільнікаў і матывы ў сучаснай паэзіі Алеся Разанава і Адама Глёбуса. Нават калектывізацыя ў Кузьмы Чорнага і Івана Мележа ўспрымалася неканвенцыянальна. Ну, вядома, Якуб Колас і Янка Купала таксама засталіся незабытымі, хаця думкі вучняў ішлі ў бок творчасці, якой аналіз адбываўся на занятках беларускай мовы. Адвечная тэма беларускай прозы і паэзіі — вайна — знайшла сваіх прыхільнікаў і сярод ліцэістаў, а асабліва апавяданні Міхася Лынькова і Янкі Брыля. Апорай „белавежцаў" стаў Віктар Швед, да якога простай і зразумелай паэзіі адклікалася некалькі вучняў. Многа прац аказалася цікавымі не толькі па форме і змесце, але і з-за непаўторных уласных разважанняў. Былі вучні, якія вельмі ўмела спалучалі аналіз прачытанага твора з тэндэнцыямі ў сусветнай літаратуры і ўласнымі рэфлексіямі. У найлепшых працах відаць было, што вучнёўскія назіранні і думкі выходзяць далёка па-за класічную літаратурную крытыку. Недахоп вопыту алімпійцы наганялі часта рызыкоўнымі, але абгрунтаванымі і апраўданымі вывадамі. Мае пахвальныя словы тычацца найлепшых прац. Аднак, здараліся і слабенькія, хаця было іх мала. Вартасць прац паніжалі звычайныя лексічныя ці граматычныя памылкі. Многія ж вучні з беларускай літаратурнай мовай сутыкнуліся толькі ў ліцэі, а вучні другіх і трэціх класаў не прайшлі яшчэ матэрыялу па граматыцы. Камісія, у якую ўваходзілі Ян Карчэўскі, Васіль Сакоўскі і Вольга Сянкевіч, вельмі высока ацаніла працу Евы Аксянцюк. Ліцэістка ўмела пераліла на паперу свае рэфлексіі наконт псіхалагічных вобразаў герояў Васіля Быкава, спалучаючы свае разважанні з сучаснасцю. Арыгінальную ацэнку арыгінальнай прозы і паэзіі Адама Глёбуса даў Ігар Іванюк. Творчасцю сваіх равеснікаў — удзельнікаў II Агульнапольскага конкурсу беларускай прозы і паэзіі, захаплялася лаўрэатка гэтага ж спаборніцтва Іаанна Масайла. Вучнёўская проза і паэзія дачакалася арыгінальнай і прадуманай крытыкі з боку ліцэісткі. Агнешка Ярашук паказала, што паэзія Разанава з'яўляецца вельмі ўспрымальнай і пашырае моладзь.

Добра, што арганізатары алімпіяды адгукнуліся на заўвагі ліцэістаў і настаўнікаў. Сёлета найбольшых поспехаў у пісьмовых працах дабіліся тыя вучні, якія паказалі свае філалагічныя здольнасці, падмацаваныя веданнем беларускай літаратуры. Коскі, як у мінулагодніх дыктоўках, не былі ўжо перашкодай на дарозе да наступнага этапу алімпіяды. Кожны мог выказацца наконт таго ў беларускай літаратуры, што найдаражэйшае яго сэрцу, найлепш успрымальнае, найцікавейшае. Думкі, рэфлексіі і заўвагі вучняў могуць стаць цікавым педагагічным матэрыялам. Тых пісьменнікаў і тыя творы, якія карысталіся найбольшай папулярнасцю, а не ўваходзяць у праграму навучання беларускай мовы ў нашых ліцэях, можна смела туды ўключыць.

У гэтым годзе ўпершыню паявіліся ў час школьных элімінацыяў вусныя выказванні. Тычыліся яны беларускай літаратуры ад першых яе праблiскаў аж да сучаснасці, з улікам „белавежцаў" і эміграцыйнай літаратуры. Саставы пытанняў, на якія адказвалі вучні, у кожным ліцэі рыхтаваліся аддзельна. Аўтарскія праграмы навучання беларускай мовы і літаратуры ў Гайнаўскім і Бельскім ліцэях розняцца, дык пытанні можна было дапасаваць да ведаў вучняў.

Да раённых элімінацыяў перайшлі дваццаць два ліцэісты. Сярод іх найлепшыя: Ева Аксянцюк, Іаанна Масайла і Агнешка Ярашук.

**Аляксей Мароз**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

### Загадка

Каб добрай пагодзе
Прыйсці памагчы,
Як ноч надыходзіць,
Мы дружна — таўчы.
Не ў ступе ваду —
Пачынаем таўчы.
Не можаце вы нам
У тым памагчы?

# Сустрэча ў чыжоўскай школе



*Энтузіясты беларускай мовы ў Чыжах і іхнія настаўніцы: Анна Лаеўская (злева) і Валянціна Андрасюк.*

Пачатковая школа ў Чыжах. Двухпаверховы будынак, сталовая, дагледжаныя кабінеты. За агароджай манументальная царква. Сто дваццаць пяць вучняў.

У калідоры прывітаў мяне гул. Дырэктар школы, **Міраслаў Пяткевіч**, вёў заняткі фізкультуры. Школьнікі, пад гук музыкі *тэхна*, практыкаваліся ў танцы.

— Гэта да ёлкі так рыхтуемся, — чую ў настаўніцкім пакоі.

Таксама ў мастацкай майстэрні, што знаходзіцца ў старым будынку школы, гаварылі пра ёлку. Вучні IV класа і **Мар'ёля Падсядлік**, настаўніца пластыкі, рыхтавалі сцэнічнае афармленне.

— Я размалёўваю зялёную шапачку паводле казкі „Чырвоная шапачка", — кажа дзяўчынка. Побач аднакласнікі цалкам занятыя маляваннем.

Майстэрня ўпрыгожана вясёлымі, разнаколернымі рысункамі. Не дзіва, што якраз з Чыжоў прыходзіць у „Зорку" найбольш малюнкаў. Нашым чытачам напэўна добра вядомыя працы братоў **Пятра і Тамаша Дземянюкоў**.

Пятрусь любіць рыцарскую тэматыку, а Тамаш аддае перавагу чорнаму гумару. Таксама дзяўчаты **Агнешка Качаноўска, Юліта Гаўрылюк, Аліна Сіроцкая, Аліна Бачынская** публікавалі свае малюнкі ў „Зорцы".

20 студзеня мы пабывалі на Цэнтральным дэкламатарскім конкурсе беларускай паэзіі і прозы ў Нараўцы, — кажа **Валянціна Андрасюк**, настаўніца беларускай мовы II-IV класаў.

— Дзеці любяць удзельнічаць ва ўсіх конкурсах, — дадае яна.

У Чыжах вучні кожны год прыступаюць да беларускіх конкурсаў. Школьнікаў падрыхтоўваюць беларусісткі.

**Анна Лаеўская**, настаўніца роднай мовы ў старэйшых класах, назвала ўсіх энтузіястаў. Аказваецца, у Чыжах, як і ў Орлі, дэкламатары ад III па VI клас.

**Паўліна Яканюк**, вучаніца трэцяга класа, выступала на раённым і цэнтральным аглядах. Яна дэкламавала верш Васіля Зуёнка „Страказа". Старэйшыя на год **Эвеліна Пліс** і **Мірка Стоцкая** вельмі прыгожа дэкламавалі падрыхтаваныя творы. Таксама **Кася Саўчук** і **Наталля Карзуновіч** — энтузіясткі гэтага конкурсу. Дзве апошнія вучаніцы прынялі ўдзел у беларускім тэатральным аглядзе.

У гэтым годзе дзяўчаты зноў будуць удзельнічаць у беларускіх тэатральных занятках.

Як у кожнай сур'ёзнай школе, так і ў Чыжах, прыступілі да прадметнага конкурсу па беларускай мове. Гэта былі: названая ўжо Аліна Сіроцкая, Аліна Бачынская, Юліта Гаўрылюк і Агнешка Качаноўская.

— Нашы вучні чытаюць „Зорку", — кажа сп. Лаеўская. — Асабліва артыкулы пра моладзь і „Вясёлы куточак".

— Каб урок зацікавіў школьніка, — дадае сп. Андрасюк, — я прыдумваю дыдактычныя гульні, ладжу розныя конкурсы.

Ад верасня 1997 года ў школе асобны беларускі кабінет. Там сустрэнеце насценную газетку і этнаграфічную выстаўку, якую ў час канікулаў наладзіла сп. Анна Лаеўская са сваімі вучнямі.



*Дырэктар школы Міраслаў Пяткевіч.*

Дырэктар школы, гаворачы пра поспехі школы, у першую чаргу называе беларускія конкурсы і адданую працу беларусістак. У Чыжах 76% школьнікаў вывучае родную мову. Выпускнікі часта паступаюць у беларускія ліцэі.

На жаль, з кожным годам паменшваецца колькасць навучэнцаў.

— Праз тры гады, — кажа спадар Пяткевіч, — трэба будзе спалучаць класы.

**ЗОРКА**

*Фота Ганны КАНДРАЦЮК*



*У мастацкай майстэрні.*

# Дзед ды баба і воўк

***(беларуская народная казка)***

Жылі сабе дзед ды баба. І была ў іх унучка, сучка, сямёрка авец і бык-палавец. Прачуў аб гэтым воўк. Прыйшоў ён к ім пад акно і запеў сваю песню:

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару.
На той гары — саламяная хатка,
у той хатцы дзед ды бабка, унучка,
сучка, сямёра авец і бык-палавец!

Баба і кажа:

— Дзедка! Хораша пяе! Нум, мы авечачку яму аддадзім!

Аддалі ваўку авечку. Ён за гару, за гару дый з'еў аўцу. На другі дзень падыходзіць зноў пад акно:

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару.
На той гары — саламяная хатка,
у той хатцы дзед ды бабка, унучка,
сучка, шасцёра авец і бык-палавец!

— Ай, дзедка! Як ён хораша пяе! Нум, мы яшчэ адну авечачку дадзім!

Далі ваўку і другую авечку. Ён за гару, за гару дый з'еў. На другі дзень прыходзіць за трэцяй авечкай. Падышоў пад акно і пяе:

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару.
На той гары — саламяная хатка,
у той хатцы дзед ды бабка, унучка,
сучка, пяцёрка авец і бык-палавец!

— Дзедка, як хораша пяе! Нум, дадзім яму яшчэ адну авечку!

Воўк за гару, за гару дый з'еў. На другі дзень зноў ідзе пад акно і пяе сваю песню:

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару.
На той гары — саламяная хатка,
у той хатцы дзед ды бабка, унучка,
сучка, чацвёрка авец і бык-палавец!

— Нума, дзедка, дадзім яму яшчэ авечачку: бач, хораша пяе!

Далі зноў аўцу. Воўк за гару, за гару дый з'еў... Назаўтра зноў ідзе пад акно:

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару.
На той гары — саламяная хатка,
у той хатцы дзед ды бабка, унучка,

# Батлейка ў Беластоку

Ужо чарговы раз наша рэдакцыя гасцявала ў беластоцкіх школьнікаў — навучэнцаў ПШ н-р 4.

Клас I „ц” падрыхтаваў „Свята Каляд”. Мерапрыемства мела польска-беларускі характар. Пачалося яно ад батлейкі на беларускай мове. Бацькі дзяцей і сябры класа вельмі цёпла прынялі беларускую пастаноўку. У школе ўпершыню ладзілася такое свята. Здаецца, не было клопату з разуменнем мовы. Польскамоўныя сябры і іх бацькі жыва рэагавалі, і не шкадавалі апладысментаў. П'есу падрыхтавала настаўніца беларускай мовы **Аліна Ваўранюк**. Пасля батлейкі выступіў увесь клас. Дзеці дэкламавалі вершы і спявалі калядкі. У I „ц” 22 навучэнцы.



*Беларуская група з ПШ н-р 4 у Беластоку (стаяць справа): Караль Заборскі, Наталька Швед, Магда Карчэўская, Альжбета Юшчук, Мая Більмін, Міхась Каліна.* Фота Г. Кандрацюк

— Наш клас цікавы, — кажа выхавацелька **Эва Данейка**. — Апрача беларусаў у класе ромы і мараканка. Дзеці вельмі нармальна ўспрымаюць сваю іншасць. Усе сябруюць.

Спадарыня Э. Данейка пахваліла дзетак з беларускай групы.

— Яны дасканала даюць сабе рады, — сказала.

**Зорка**

# Пясняр

**Мой літаратурны герой**

Неўзабаве ўвесь свет будзе сустракаць двухтысячны год. Людзі сканструявалі многа розных машын, але ніхто да гэтай пары не змяніў чалавечай прыроды. На зямлі распаўсюджваецца хцівасць, ашуканства і несправядлівасць. Няцяжка спаткаць такіх адмоўных герояў як князь — адзін з герояў паэмы Янкі Купалы „Курган”. На жаль, добрасумленных людзей усё менш і менш. Моладзь часта выклікае ўражанне ашалелай.

На пашану заслугоўваюць паводзіны гусляра, які ў „Кургане” ўяўляе імкненні запрыгоненых, бядуючых сялян. Народны пясняр з'яўляецца маім любімым літаратурным героем.

Стары гусляр не мае ні золата, ні каштоўных камянёў, ні службы. Носіць ён непрыгожае, зношанае адзенне. Яго адзінае багацце — вялікі талент.

Гусляр прыналежыць да ліку простых, неадукаваных людзей. Пясняр бачыць нядолю сялян, лютасць князя. Ён хоча змагацца за праўду, шчасце і лепшую долю свайго народа.

Мой любімы герой вылучаецца адвагаю і непахіснасцю ў сваіх рашэннях. Гусляр смела кажа ў вочы феадальнаму магнату праўду. Расказвае аб злачынствах, якія зрабіў князь.

Стары пясняр нічога не баіцца, ён чалавек горды, свабодалюбівы і цвёрды.

Мужны гусляр не згаджаецца выканаць загад князя. Яго песня не прадаецца за грошы, яна свабодная і незалежная, пазбаўленая хлусні і крывадушнасці.

Я захапляюся нязломнасцю і сумленнасцю гусляра. Часта людзі гавораць тое, што хочуць пачуць субяседнікі, забываюць праўду, адракаюцца сваёй нацыянальнасці і рэлігіі. Некаторыя за грошы могуць зрабіць усё — салгаць, скрыўдзіць або нават забіць чалавека.

Я лічу, што кожны беларус павінен ведаць паэму Янкі Купалы „Курган”.

**Аня Аўсянюк,**
**клас VII „е” ПШ н-р 3**
**у Бельску-Падляшскім**

**Ад рэдакцыі:** З гэтага нумара „Зоркі” пачынаем друкаваць працы ўдзельнікаў Літаратурнага конкурсу н-р 3. Просім чытачоў прагаласаваць за найлепшы тэкст. Сярод аўтараў надасланых ацэнак разыграем цікавыя ўзнагароды.

## *Чарвячок*

Невялікі чарвячок
Пасяліўся ў сліву.
Многа спіць ды смокча сок
Ў доміку чарвівым.

Скажа хто на чарвяка:
„Вось які паскуднік!
Знішчыў плод, садаўніка
Плён працы маруднай!

Хто ж пусціў яго ў садок,
Хто дазволіў — хаму?! —
Лезць, грызці, высмоктваць сок
З мякаці духмянай?!”

Не адкажа чарвячок
На грозьбы, папрокі.
Лёс такі ў яго, браток,
Ды дзянёк кароткі...

**Міра Лукша**

## *Пішуць школьнікі*

**Вітай, „Зорка”!**

Мы — вучаніцы VII „а” класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Хочам табе расказаць пра „Шчодры вечар”, які адбыўся 13 студзеня 1998 года ў нашай школе.

Мерапрыемства распачала кароткая прамова пана Дарка Фіёніка і пані Элі Тамчук. Як першая выступіла тэатральная група з Бельскага дома культуры, якую складаюць вучні нашай школы. Групу вядзе Альжбета Тамчук. Жартаўліва прадставілі яны нам батлейку пад загалоўкам „Трон”. Потым усе частаваліся кішкай, пячэннем, яблыкамі і пілі кампот з сушаных груш і яблык — шчолак. Неспадзявана прыйшлі да нас каляднікі з прыгожай гвяздай і цудоўнымі калядкамі. Прыйшоў час на гульні і на жарты. У час гульняў зрабілі мы вузел з рук, які трэба было развязаць. На канец усе заспявалі некалькі песень.

Нам вельмі спадабаўся „Шчодры вечар”. На наш погляд, такія мерапрыемствы трэба ладзіць кожны год. А мы ў Новым годзе жадаем рэдакцыі „Нівы”, а таксама яе чытачам шчасця і здароўя.

**Эва Прафірук**
**і Эвэліна Тымашэвіч**

## *Польска-беларуская крыжаванка № 7*

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу 3 тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| ▼ | Ząb | Żarty | Talk | Miseczka | ▼ | Pies | ▼ | Lwica |
| | Baobab | ▼ | Bunt | ▼ ► | | | | |
| ► | | | ▼ | | | | | |
| Ciężarówka ► / Hałas ▼ | | | | | | | | |
| ► | | | | | | | | |
| Ząb trzonowy / Łydka ► | | | | | | Ar | ► | |

Адказ на крыжаванку н-р 3: парасон, прапанова, вадалаз, арак, кара. каптан, рапак (góra lodowa), рад, ганак, повар, Назар.

Узнагароды — запісныя кніжкі — выйгралі: **Марцін Тапалеўскі** з Кленік, **Веслаў Лукашук** і **Пятрусь Янкоўскі** з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у рэдакцыі „Нівы” або чакаць іх у сваёй школе.

сучка, тройка авец і бык-палавец!

— Бач, дзедка, як хораша пяе! Нума, мы дадзім яму яшчэ авечачку!

Далі ваўку яшчэ адну авечку. Ён за гару, за гару і з'еў авечку. На другі дзень зноў падыходзіць пад акно і пяе сваю песню:

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару. На той гары — саламяная хатка, у той хатцы дзед ды бабка, унучка, сучка, двойка авец і бык-палавец!

Баба кажа:

— Дзедка, хораша пяе! Нум-ця, яшчэ адну авечку дадзім!

Далі яшчэ адну. Воўк і тую з'еў за гарой. А назаўтра зноў ідзе, заводзіць сваю песню:

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару. На той гары — саламяная хатка, у той хатцы дзед ды бабка, унучка, сучка, адна авечка і бык-палавец!

— Дзедка, хораша пяе! Дадзім ужо і гэту авечачку.

Узялі і аддалі апошнюю авечку. На другі дзень прыходзіць ужо за валом.

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару. На той гары — саламяная хатка, у той хатцы дзедка ды бабка, унучка, сучка і бык-палавец!

Аддалі яму ўжо і вала. Воўк за гару, за гару і з'еў вала. І сам зноў ідзе пад акно.

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару. На той гары — саламяная хатка, у той хатцы дзедка ды бабка, унучка і сучка!

— Дзедка, хораша пяе! Нум-ця, яшчэ і сучку аддадзім.

Далі ваўку і сучку. Ён і тую з'еў за гарой. А на другі дзень зноў прыходзіць.

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару! На той гары — саламяная хатка, у той хатцы дзедка ды бабка і ўнучка.

— Ну што, дзед? Нум, і ўнучку аддадзім!

Нечага рабіць: аддалі і ўнучку. Воўк з'еў унучку, а на другі дзень прыходзіць і за бабай:

— Уву-уву-уву! Падыду пад гару. На той гары — саламяная хатка, у той хатцы дзедка ды бабка!

Нічога тут не зробіш: аддаў дзед ваўку і бабу, астаўся адзін жыць.



Талон „Зоркі” № 7
15.02.1998

# Людзі бачаць у гэтым сэнс

**З Валянцінай ЛАСКЕВІЧ, сакратаром Беларускага таварыства, гутарыць Ада ЧАЧУГА.**

***— Неўзабаве Фестываль беларускай песні. Якія былі пачаткі?***

— Усё пачалося ў раёне. Лепшыя выканаўцы тыпаваліся на цэнтральны агляд. Першыя цэнтральныя агляды праходзілі ў будынку ГП БГКТ. Калі падумаць, што сёння людзі на Фестывалі не месцяцца ў зале спартклуба „Влукняж", дзе бывае па пару тысяч асоб, дык можна ўявіць сабе, наколькі разросся гэты агляд (цяпер: фестываль) і мець сатысфакцыю, што праца, якая пачалася ў канцы шасцідзесятых гадоў, дала добрыя вынікі. Сёлета адбудзецца ўжо дваццаць дзевяты агляд.

***— Праца з мастацкімі калектывамі стала адной з важнейшых дзялянак у дзейнасці Беларускага таварыства.***

— Раней большасць калектываў працавала без інструктараў. Трэба было ім даць дарадчыка, які б дапамог заспяваць правільна, выэкспанаваць народную манеру спявання, падабраць адпаведны рэпертуар.

***— На вёсках яшчэ да сёння ўспамінаюць тадышняга музычнага інструктара Янку Крупу, які быў у вас штатным працаўнікам і членам калектыву „Лявоніха".***

— А са старэйшым гарадоцкім калектывам, які паўстаў больш сарака гадоў таму, працаваў і працуе да сёння **Сцяпан Копа**, які, стаўшы музычным інструктарам Ваяводскага дома культуры, пачаў апекавацца ўсімі беларускімі калектывамі на Беласточчыне — ад Мельніка да Дубровы.

А вазьміце хаця б **Сяргея Лукашука**, сёння дырэктара Бельскага дома культуры, а калісь таксама інструктара ГП БГКТ. Ён жа — бацька колькіх калектываў! Нястомны арганізатар беларускага музычнага жыцця.

Былі і **Аляксандр Лукашук**, і **Міхась Артысевіч**, і **Пятро Нівінскі**, і іншыя. Большасць з іх працуе з беларускімі калектывамі да сёння.

***— Цяпер, як мне вядома, беларускаму музычнаму руху прыбыло інструктараў з Гародні.***

— Так. Хорам Гайнаўскага дома культуры кіруе **Анна Стрыха**, **Віктар Маланчык** працуе з хорам гарадскога аддзела ГП БГКТ у Беластоку, **Мікалай Мяжэнны** — з ляўкоўскімі „Цаглінкамі", а **Міхась Аўхіменя** — з калектывам „Чыжавяне" з Чыжоў.

Цяпер круг удзельнікаў агляду беларускай песні не толькі не паменшаў, але і пашырыўся. Гэтыя людзі нарадзіліся з гэтай песняй і хочуць пранесці яе праз усё жыццё. Яны бачаць у гэтым сэнс. Таму мы хочам спрыяць ім, дапамагаць у пераказанні іхняга мастацтва не толькі ў сваёй вёсцы, але і ў іншых асяроддзях.

***— Раённыя агляды яшчэ не закончыліся (размаўляем 29 студзеня — аўт.), але можа ўжо сёння Вы можаце хаця прыблізна сказаць, хто выступіць на цэнтральным аглядзе?***

— Гэта вельмі цяжкое пытанне на сёння. Але напэўна не адбудзецца без „Маланкі" і „Васілёчкаў" з Бельска, без хору Гайнаўскага дома культуры, без беластоцкага хору, без „Арэшкаў" з Арэшкава і „Незабудак" з Курашава, без гарадоцкага хору, без „Цаглінак" з Ляўкова і „Тыневічанак" з Тыневіч, без „Журавінак" з Агароднічкаў і „Рэчанькі" з Козлікаў, без „Чыжавянаў" з Чыжоў і „Збучанак" са Збуча ды многіх, многіх іншых.

Выступіць шмат маладзёжных калектываў, якім мы — побач з фальклорнымі калектывамі — надаем найбольшае значэнне. Убачым на сцэне вучняў беларускіх ліцэяў з Бельска і Гайнаўкі, маладзёжны калектыў „Чарамшына" з Чаромхі, „Каласкі" пад кіраўніцтвам Алы Дубец з Беластока, калектыў з „Пронару", а таксама эстрадныя калектывы „Ас", „Зубры", „998". У малодых наша надзея.

Найбольшай праблемай з'яўляецца гала-канцэрт. На ім немагчыма паказаць усіх удзельнікаў і трэба выбіраць. Сэрца баліць, калі некаму скажаш: вы не выступіце. Людзі просяць: вы лепш нам узнагарод не давайце, а стварыце магчымасць, каб мы маглі заспяваць яшчэ раз.

Ну, але пакуль што яшчэ не скончыліся раённыя агляды...

***— Дарэчы, чаму раённы агляд Гайнаўшчыны адбыўся не ў Гайнаўцы, а ў Кляшчэлях?***

— Для такіх вялікіх мерапрыемстваў мы шукаем добрага суарганізатара, а ў Кляшчэлях у арганізацыю агляду ўключыліся гарадская і гмінныя самаўправы, гмінны асяродак культуры і дырэкцыя школы ў Кляшчэлях. Людзі, якія спявалі, казалі, што так іх яшчэ не віталі. Толькі пад'язджаў аўтобус — і ўжо іх чакалі арганізатары, якія вялі іх на месца, дзе яны маглі адпачыць і падрыхтавацца да выступлення. Усім далі абеды, заапекаваліся людзьмі.

На жаль, у Гайнаўскім доме культуры мы не знайшлі такой падтрымкі.

***— Калі адбудзецца цэнтральны агляд?***

**— 15 лютага а 9-ай гадзіне ў Гарнізонным клубе (Беласток, вул. Кавалерыйская 70), а гала-канцэрт — праз тыдзень, 22 лютага ў зале спартыўнага клуба „Влукняж" (Антанюкоўская 66) а гадзіне 17-ай. Выступіць таксама хор імя Г. Цітовіча з Менска пад упраўленнем Міхася Дрынеўскага.**

# Каляндар БГКТ на 1998 год

У арозненні ад мінулых гадоў, у гэтым „Беларускі каляндар", штогоднік Галоўнага праўлення БГКТ выйшаў тэрмінова — на пачатку 1998 года. Яго стваральнікі — Уладзімір Юзвюк і Мікола Гайдук — такім чынам адарваліся ад традыцкі свае арганізацыі і накінулі сабе капіталістычны тэмп працы. Калі ідзе пра змест дык нічога тут не мяняецца ад некалькіх дзесяткаў гадоў. Каляндар адкрывае верш Алеся Барскага *Мой край — мая святыня* з усімі патрыятычнымі матывамі характэрнымі гэтаму паэту. Далей змяшчаецца каляндарная частка, пераплеценая даведкамі пра фальклорныя калектывы Беласточчыны — „Васілёчкі", „Арэшкі", „Красуні", „Тыневічанкі", „Журавінкі". Аздобай гэтай часткі штогодніка з'яўляецца лірычны верш Васіля Петручука *Хлапец і дзяўчына.* Паэт дае чытачам шанц пазнаць усю складанасць кахання, а асабліва ўказвае драматызм, калі на дарозе да шчасця маладой пары стае цешча: „Па трупе маім ты ажэнішся з ёю". На радасць закаханым старая памерла ад злосці, а маладая пара жыла „ў шчасці як голуб з галубкай".

Аўтары „Календара" традыцыйна змяшчаюць багаты гістарычны даведнік, а ў ім, між іншым, дзень нараджэння Маркса, Леніна, утварэння СССР, БССР, Кітайскай Народнай Рэспублікі, пачатак Кастрычніцкай рэвалюцыі. Шырэй пішуць яны пра ўгодкі заканчэння першай сусветнай вайны і гадавіну з дня нараджэння Адама Міцкевіча. Уладзімір Юзвюк змяшчае аналіз вынікаў апошніх парламенцкіх выбараў, паказваючы змаганне „нашых" (СЛД) з „нянашымі" (усе астатнія). Гэты самы аўтар піша таксама пра вынікі дыскусіі паміж урадавымі коламі і ўладамі БГКТ у справе музея ў Гайнаўцы. Гістарычна-філасофскі характар мае артыкул Тамары Русачык пра „значэнне дэкламатарскіх і тэатральных конкурсаў у фарміраванні асабовасці вучняў і нацыянальнай тоеснасці". Аляксандр Баршчэўскі змясціў біяграфічны нарыс пра Вінцука Склубоўскага, а Ян Сычэўскі — *Летапіс дзейнасці БГКТ у 1996-1997 гадах.*

Традыцыйна апошняй часткай гэтага выдання з'яўляецца прэзентацыя творчасці „белавежцаў". У гэтым годзе надрукаваны былі вершы Віктара Шведа, Алеся Барскага, Юркі Баены і апавяданне Міколы Гайдука. **(ям)**

# Нашы карані

**CXV. Пакутны лёс**

Як мы папярэдне ўжо згадвалі, у першай палове XVII стагоддзя на абшары ўсіх беларускіх зямель дзейнічала ўсяго адна-аднюсенькая Магілёўская епархія. Гэта была яўная насмешка, зласлівы здзек над праваслаўнымі беларусамі і іхнім духавенствам з боку каралеўскай улады. Можна сабе прадставіць, як па духоўных справах, па тагачасным бездарожжы, дзе на кожным кроку пагражала небяспека ад розных валацугаў, рабаўнікоў ды разбойнікаў трэба было валачыся ў Магілёў з адлеглага Полацка, Гародні, Бельска ці Драгічына па 500-700 кіламетраў! Якім жа цяжкім, а то і проста немагчымым быў нагляд ці кантроль іерархам падлеглага яму духавенства на месцы яго дзейнасці ў парафіях, благачыннях ці манастырах. Няцяжка ўявіць, як усё гэта разбуральна, знішчальна ўплывала на духоўнае жыццё праваслаўнай грамадскасці на беларускіх землях тадышняй Рэчы Паспалітай.

Да таго польскі ўрад пад націскам уніяцкай іерархіі рабіў усё, каб перашкодзіць магілёўскім епіскапам у кіраванні духовым жыццём праваслаўных беларусаў. Гэтак на магілёўскую кафедру ў 1644 годзе быў выбраны ігумен Іосіф, але кароль Ян-Казімір зацвердзіў яго на гэтым пасадзе толькі ў 1650 годзе. За тыя шэсць гадоў адсутнасці епіскапа уніяты захапілі праваслаўныя манастыры і цэрквы па ўсёй Беларусі і рабілі потым праваслаўнаму ўладыку розныя прыкрасці, злачынствы, што і давяло яго да заўчаснай смерці.

Пасля аж 12 гадоў беларуская магілёўская епархія была без пастыра, пакуль быў пасвячоны на яе ўладыка Іосіф Тукальскі, якому выпаў пакутніцкі шлях шматгадовага вязня ў лёхах Мальборка, а потым аж да смерці скрывання ад каралеўскіх сышчыкаў і забойцаў. Яго наступніку епіскапу Феадосію давялося жыць не ў Магілёве, дзе бясчынствавалі уніяты і каталікі, але ў Слуцкім манастыры. Пасля ягонай смерці ў 1678 годзе праваслаўныя выбралі беларускім архіпастырам архімандрыта Клімента, але фанатычны каталіцкі кароль, смяротны вораг праваслаўя Ян Сабескі не зацвердзіў яго на епіскопіі, бо патаемна рыхтаваўся здраднікамі праваслаўя — епіскапамі львоўскім Шумлянскім і пярэмышльскім Вінніцкім — загнаць праваслаўных беларусаў і ўкраінцаў ва унію. Дзеля гэтага Сабескі ў 1680 годзе склікаў у Люблін абавязковы для ўсяго праваслаўнага духавенства з'езд яго з уніятамі, „каб, — як пісаў кароль, — Русь праваслаўную пад дзяржаваю кароны польскай абрататаючуся на унію перафармаваці". Праваслаўнае духавенства і свецкія вернікі прыбылі на з'езд, праслухалі аблудныя прамовы, не даліся злавіцца ў каралеўскія сеткі-абяцанкі, нічога не падпісалі ды раз'ехаліся па хатах. Такім чынам Сабеская унія цалкам праваліліся. У 1692 годзе Сабескі наведаў Магілёў. Праваслаўныя прасілі яго даць прывілею на епіскапства магілёўскае архімандрыту Серапіёну, але кароль і слухаць пра тое не хацеў. Толькі пасля яго смерці, гэтага праслаўленага „героя венскай вікторыі над туркамі" жыццё праваслаўных на Беларусі і становішча Царквы на некалькі гадоў палепшылася, але не на доўга.

**Мікола Гайдук**

# Мастацкія выстаўкі ў ліцэі

Прывыклі ўжо жыхары Гайнаўкі да арганізаваных у галерэі Беларускага музея выставак. Працай галерэі кіруе спадар Віктар Кабац. Аднак не пакінуў ён сваёй мастацкай працы. Яго атэлье знаходзіцца ў майстэрні Беларускага ліцэя. Нядаўна ўзнікла ідэя, каб меНавіта ў ліцэі арганізаваць выстаўкі. Спадар Кабац узяўся за працу і супольна з моладдзю падрыхтаваў першую выстаўку. Ужо на працягу снежня ліцэісты, і не толькі, маглі глядзець працы мастака. На другім паверсе побач кабінета беларускай мовы адкрылася выстаўка „Пушча". Графіка і пастэлі Віктара Кабаца, як заўсёды, прыцягвалі ўвагу непаўторнымі колерамі. Менавіта колер — гэта козыр у руках аўтара. Дазваляе ён паказаць усе задумы мастака вельмі ашчадна, але адначасова вельмі выразна і пераканаўча. Без дробязяў і дэталяў дубы ў працах жывапісца становяцца яшчэ больш магутнымі, а сосны — гібкімі і стройнымі. Асаблівага зацікаўлення сярод ліцэістаў не было, але ж мастацтва — гэта галіна для людзей выбраных, уражлівых. Паасобныя вучні прыходзілі і некалькі разоў. Маглі сустрэцца са спадаром Кабацам і даведацца пра яго асабістае бачанне акружаючага нас свету. У студзені паявілася новая выстаўка „Круг". На гэты раз паказваліся здымкі Уладзіслава Завадскага, вядомага чытачам „Нівы" фатографа. Здарэнні з жыцця вёскі і пейзажы, якія ўвекавечыў спадар Завадскі, маглі пабачыць на гэты раз вучні ліцэя. Розныя поры года паказвалі прыгажосць нашай прыроды. Цікава зроблена было, у форме кружкоў, абрамленне здымкаў. Першы крок, каб зацікавіць ліцэістаў мастацтвам — зроблены. Ёсць ужо вучні, якія ахвотна паспрабавалі б сваіх сіл у мастацтве. Застаецца толькі жадаць ім поспехаў і чакаць наступных выставак.

**Аляксей Мароз**

І поле добрае, і родзіць усё, то як тое кінеш?

# Трахтар цягне, то гарэм

Калі бацюшка прыедзе, ёсць аказія сабрацца людзям у Меляшках, што ў Гарадоцкай гміне. Вось бацюшкі Міхальчук і Астапчук у Пілiпаўку прыязджаюць штосерады, расказвала Ніна Пятэльская. Розных святых услаўляюць. На вячэрні ў святліцы чалавек дваццаць і больш збярэцца. Пасля пасядаюць за сталы, гарбаты вып'юць. Закусяць пірагамі. Паразважаюць пра новае і старое. І так шэсць тыдняў. Кожны прынясе што мае.

— Нам пасля школы асталіся крэслы, сталы, забралі мы іх усе ў святліцу. Ваня Шыкуць наш светліцовы, посуд наш пільнуе — кілішкі, відэльцы, каб было ўсё гатовае, на ўсякі выпадак. Добра, што мужчына за гэта ўзяўся... Вось на чацвёрты дзень Каляд пасля службы сабраліся амаль усе, хто змог прытэпаць. Хто гарбатку выпіў, хто чарачку. Хацелі яшчэ пасля па вёсцы ісці з песнямі, але старэнькія ўжо спаць пайшлі...

У царкву ездзім у Гарадок, кажа Ніна, але бацюшка прыязджае да нас,

**да трох крыжоў**

сярод якіх адзін стары, другі той, што паставіў Мікалай Тарасэвіч, а трэці, што дзеці з „Зоркі" памалявалі. У Спленне адпраўляецца малітва за вёску. І каленія Меляшкі, „Сэты", цяпер маюць свой крыж, што яго дзеці паставілі, і арганізуюць сваё свята. Добра, што ёсць чаму спаткацца, бо ні хрэсьбіны цяпер не трапляюцца, ні вяселлі. Цяпер там такія дружныя зрабіліся, і дажынкі разам робяць, задаволеныя, што ўсё з поля ўбралі. Успамінаецца крыху калісьняе. Я яшчэ памятаю, як калісь выносілі на вуліцу сталы і хлеб свянцілі. І жывіну, як ішла на пашу. Цяпер, як спаткаемся, то ўспамінаем былое...

Рады мы, як хто да нас прыедзе. Наш солтыс, Віктар Латыш, стараецца больш людзей нашых сабраць. Набожны чалавек, і з бацюшкам любіць пагаварыць. Нестары. У нас усе старэйшыя. З тых маладзейшых — то па 60, па 70 маюць. Якубу 97 гадоў. Да яго дачка штотыдзень прыязджае, ежу прывозіць, бо ў нас

**„спулдзельню" раскідалі**

— „Санэпід" зачыніў. І цяпер няважна з намі, старэчамі. І не ведаем, куды з гэтым пайсці, — ці да войта, ці да ваяводы ехаць у Беласток, бо ж жыць няма як! Самаход прыязджае, толькі хлеб прывозіць (два віды, і булачкі) у панядзелак і пятніцу. Я пайшла ў Беластоку на рынак, папрасіла аднаго ўласніка крамы з рыбай, то прывёз нам рыбы. А стаў мароз — і той адмовіўся ехаць. Людзі свята без таго следзя мелі. Добра, што я ў Беластоку карпа купіла, то мела чым радзіну прыняць. А калі каму 90 ці больш — то хто табе паедзе ў Беласток ці ў Гарадок на цэлы дзень (аўтобус едзе ў 6 раніцы і вяртаецца ўвечары)? Той хлеб ды булкі — толькі таго шчасця, што маем у вёсцы. Ага, і тэлефоны. Выгода! Па вёсках то

**цяпер жыць!**

І балота сухое зрабілі, што таксоўкай можаш ехаць наўкруга. І сена добрага наробіш. Хоць бы ў нас — 10 гектараў лонкі, у чатырох кавалках. Каровы пасуцца то на адным, то на другім, а яшчэ ўкосім. Можна было б гаспадарыць, каб лета маладыя. А то мне 66, Валодзю 71. Як яшчэ лягчэйшая работа, то і на стажок залезеш, на абарог ці фуру, назад без драбіны не абыдзешся. Мусова ж утаптаць сена. Сын прыедзе, ноймем людзей на дапамогу — няма ж у нас тае сілы гаспадарыць. Але ж не будзеш чакаць смерці,

**трэба варушыцца**

хоць трохі. Без занятку хутка памрэш. І поле добрае, і родзіць усё, то ж як яго кінеш? Хоць нядужы, то на трактар узлезеш. Андруша на фуры, бацька падае. А я пад'язджаю. Хоць нага хворая ў мяне была, і то тая, што на тормаз цiснуць, то ім лягчэй. Ноч не сплю, баліць, але еду ўдзень. Але і няма каго наймаць — пару людзей е, то і не разарвуцца. І трэба ставіць пляшку, апроч грошай. Такі звычай у нас завёўся...

Большасць то свае гаспадаркі або здалі, або запісалі, калі мелі на каго. Толік Дарашкевіч запісаў на зяця, пенсію дастаў. Міхал Лавіцкі на сына здаў сваю гаспадарку. Юрка перасяліўся ў сваю хату, рамонт такі харошы зрабіў — хата як у месце. Нават у хляве такі парадак, што аж хочацца паглядзець. Вядома, малады гаспадар. І жонка ў яго статная, акуратная. Прыедзе Юрка да нас на поле (цюкаваў сена, салому), то аж радасна на яго паглядзець, такі акуратны, зухаваты хлопец. А мы, што ж, усе старыя. Толькі двух вучняў маем, з вёскі, якая мела сто гаспадарак! І школа вялікая была. І

**актыўнасць была**

вялікая. І тэатр рабілі, і спявалі, выступалі. Што ж зробіш. Пастарэлі, страцілі імпэт. Таварыства да нас не прыязджае. Пэўна, і там цяпер іншыя людзі, людзей па вёсках не ведаюць, ці, можа, пазабывалі? Думаем, а калі б іх да нас запрасіць, ці прыедуць?..

А так штодзень — хто на роварьі, хто трактарам, хто самаходам — маем экскурсію з малаком у злеўню на каленію. А там — заўсёды свежая „газета" — новыя „весткі", не заўсёды вясёлыя.

**Міра Лукша**

# Звычкі-прывычкі

Ну і дагуляўся. Хіба больш не паеду ў вялікі горад або, як яго некаторыя называюць, вялікую вёску. Усё прапала! Два месяцы натужлівых змаганняў, каб пакінуць дурную звычку, страчаныя. Шмат уласных цярпенняў і надзеяў сямейкі разбіліся цераз адну паездку. Што ж, слабенькі я. Бо калі зманіла мяне дзеўка са стэнда, дык як жа сябе назваць. Можа і гэтае акрэсленне надта далікатнае. Шантрапа з задзірыстым носікам асабліва паўплывала на мой мяккі характар. І падвяла. Абяцаная „прыемная лёгкасць" выявілася цяжкімі, амаль пакутлівымі перажываннямі. Віна за змарнаваны шанс, за непрадуманы крок душыць. І мучыць. А і адрыгнецца яшчэ пэўна не адзін раз. Хаця б на здароўі. І няхай гэта толькі хвілінная слабасць — усё ж трэба пачынаць ад пачатку. Асабліва сорамна перад дачушкай. Нічога, што яна маленькая, чатырохгадовая, але ўсё разумее. А так ганарылася і ўсім заяўляла, што тата перастаў курыць.

А чаго туды паехаў? Бяздзеліца хіба падказала. І куплю нічога не думаў, а некалькі малаважных спраў можна было аформіць па тэлефоне. А мо так трэба было? Раней ці пазней сутыкненне са светам спакус і так адбылося б, а я цяпер толькі шукаю апраўдання. І для сябе і для свайго недарэчнага, недаравальнага ўчынку. А віну ўскладаю на нейкую там вёску ці горад. Не! Усё-такі вінавата яна — вялікая вёска. Паездка туды з'яўляецца не абы-якім наканаваннем. Мая маці, напрыклад, перад такім падарожжам не спіць усю ноч, а калі давядзецца ісці ўжо на аўтобусны прыпынак, дык збіраецца быццам бы на катаргу страшэнную. А прыедзе адтуль — здаецца на некалькі тыдняў (калі не месяцаў) зблажэла. Гаворыць, што лепш сябе адчувала б корпаючыся тыдзень у агародзе ці ў полі. Людзі там, у горадзе, не ідуць, а бягуць, машыны не едуць, а імчацца. Нічога добрага, сапраўднага няма. А вэрхал які! І, у дадатак, папольску гаварыць трэба. Ну, здаецца неабавязкова, але калі ўсе так... Як яны там так жывуць? Палякі — зразумела, для іх гэта нармальшчына, але нашыя — мусяць асабліва мучыцца. Хаця, хто іх там ведае.

**Яўген Бялькевіч**

*Тэкст дасланы на конкурс на пасаду журналіста.*

# Памяць аб салдатах

21 студзеня г.г. у Беластоку адбылася ўрачыстасць прысвоення медалёў салдатам Чырвонай Арміі ды жаўнерам І і ІІ Арміі Войска Польскага. Адзнакі ветэранам з Беластоцкага ваяводства ўручыў прадстаўнік пасольства Расійскай Федэрацыі ў Варшаве доктар Валеры Макоўскі.

На другі дзень расійскі дыпламат гасцяваў у маёй хаце. Хацеў ён наведаць магілу невядомага байца, які быў паранены і не хацеў здацца немцам ды пакончыў жыццё самагубствам. Адзінокая салдацкая магіла знаходзіцца ў ляску ў 700 метрах ад вёскі. Пасля Валеры Макоўскі паехаў у Трасцянку да Мікалая Петручука, былога салдата Чырвонай Арміі, які паказаў госцю магілы савецкіх байцоў на мясцовым могільніку. На карце, што пры сабе меў дыпламат, многа было чырвоных кольцаў, якімі былі пазначаны мясцовасці, у якіх пакояцца астанкі савецкіх салдат. Мне запомніліся дзве вёскі — Адрынкі і Пуцiскі. Я заклікаю ўсіх людзей добрай волі апекавацца магіламі салдат, якія загінулі ў змаганні з гітлераўскімі захопнікамі.

Карыстаючыся нагодай звяртаюся з просьбай дапамагчы мне знайсці магілу майго брата. Ён працаваў міліцыянерам і загінуў у 1947 годзе разам са Станіславам Багдановічам з-пад Аўгустова і Рыгорам Яканюком з вёскі Камень ад кулі ўзброенага падполля. Да сённяшняга дня не ведаю, дзе спачываюць іхныя астанкі і напэўна да гэтай пары святар не пасвяціў іх магілы. Калі хто ведае, хай паведаміць у рэдакцыю.

Яшчэ раз заклікаю шанаваць магілы салдат незалежна ад іх нацыянальнасці. Трэба памятаць, што яны не выбіралі сабе поля бою і ў змаганні аддалі самае каштоўнае — жыццё.

**Мікалай Лук'янюк**

# Што з тою праўдаю?

На мой розум

— Ну, і што там, дзядзьку Ліяш, новага?

— А толькі новага, што праўда з хлуснёю месцамі памяняліся.

— ?

— Чаго робіш выгляд жабы, раз'ехаНай танкам? Нездарма кажуць: „Не ганяй птушак на ветры, не гавары ўсім праўды". Адна дзяячка замнога сказала, то міністрам культуры яе не выбралі, а былога прэм'ер-міністра суд прыгаварыў да прынясення публічна прабачэння і загадаў заплаціць 10 тысяч злотых на патрэбы Польскага чырвонага крыжа. Во, колькі лішняе слова каштуе! Адзін у нас у часы панавання камітэтаў, пайшоў спытаць ці жаніцца можа. Там пагледзелі на яго як на прыдурка нейкага і сказалі: „Калі гэта будзе ваша адзіная жанчына і не будзе гэта многажонства, дык у нас гэта не забаронена. Мы, наадварот, дбаем пра сям'ю. Калі здаровая сям'я — здаровае і грамадства". — „Яно ўсё так, але яна, бачыце, дачка праваслаўнага святара", — сказаў той, хочучы быць прыкладным і свядомым членам партыі. Тут таварышы замяліся. Пераглянуліся паміж сабою і выявілася, што яны ўсё ж не такія бесстароннія. „Ну, так... Гэта мяняе сітуацыю. Мы, ведаеце-разумееце, усё ж бараніць не можам. Так адкрыта гаворачы, то мы яўна нічога супраць не маем. Аднак, ведаеце, вы чалавек малады, таленавіты, з пашыранай свядомасцю, як бачым. Маглі б далёка зайсці. І на працы, і на партыйнай ніве... Падумайце, ці не было ўжо свецкіх дзяўчат, якія б на жонку падыходзілі?" — „Былі! А як жа, дзяўчаты былі! Але, калі што да чаго — усе валацужкамі аказваліся", — прызнаўся, як на споведзі, хочучы даказаць сваю партыйную прыкладнасць, кавалер. „Ну, тут вы, таварыш, паехалі! Няма ў вас ніякіх партыйных манер!" — пераглянуліся між сабой апаратчыкі, паміж якімі была жанчына, якая ў камітэце вялікі чын займала.

І такім спосабам, замест згоды, уляпілі майму знаёмаму партыйную вымову за абразу жанчын.

— Ну, дык гэта так было, але цяпер камітэтаў няма.

— Было і ёсць! Раз ашукаў, ашукаеш і другі; раз здрадзіў, здрадзіш наступны; украў, украдзеш і яшчэ раз, але, калі раз сказаў праўду, другі раз ужо не скажаш.

— Здараецца, але каб ужо так адразу ўсё пад адну мерку... Камітэтаў ужо няма.

— Ну і што, што няма? Ёсць іншыя ўстановы. Мая суседка аднаму ксяндзу на споведзі прызналася, што мужа бокам пусціла, дык пры кожнай прычыне да яе заходзіў, а калі забараніла, сказаў, што ёй нельга прыступаць да прычасця.

— Дык што з тою праўдаю?

— А так, як калісьці з тым мастом паміж амерыканцамі і рускімі, дзе першыя другіх спыталі, што чуваць наконт сексу. А адна руская жанчына сказала: „А у нас нет секса". І села на сваю праўду.

**Міхась Шаховіч**

# Назаравы ўспаміны

**У параўнанні да санацыі то цяпер рай, бо тады за скваркай то аж душыліся, і не было крашанага. Тады гаспадар як аднаго вепрука выкарміў, а другога прадаў, то было ўсё, — кажа Назар ТАРАНТА, 89-гадовы жыхар Вулькі, што ў Арлянскай гміне. — Саланіна тады каштавала каля двух злотаў, а каўбаса два злоты і не ўсе маглі купіць. А на пачатку камуны таксама не было надта добра, бо вельмі прыцiскалі прымусовымі пастаўкамі. Пасля палягчэла, з часам з'явіліся машыны і ўсю гаспадарку можа ўжо апрацаваць адзін чалавек.**



З дзяцінства памятаю як сярпом жалі, а жніва цягнулася два месяцы. Прымянялася тады трохпольная сістэма апрацоўкі зямлі. Ворнае дзялілася на тры палі, кожнае з якіх засявалася спачатку азімымі, затым яравымі, а на трэці год заставалася пад папар. Каб збожжа добра расло, папар тройчы пераворвалі. Палі ў гаспадароў былі раскінуты ў цераспалосіцы. У нас было 70 кавалкаў, з якіх некаторыя мелі па паўдзесяціны, а іншыя па 8-10 скіб шырыні. Вузкія палоскі цягнуліся ад Вулькі аж да арлянскай рэчкі, а сенажаці былі каля Шчытоў і Ляўкоў.

У Вульцы калісьці хаты стаялі па адзін бок дарогі, а клуні — па другі. Шасцігадовым хлапчуком хадзіў я паглядзець на чыгуначны мост каля вёскі, які тады ахоўваўся вартаўнікамі. У 1915 г. у бежанства падалася ўся вёска. З нашай сям'і ў Расею паехалі дзед Фядосій, бабка Агафія, бацька Зіновій, маці Пелагея, чатырохгадовая сястра Фроська і я — сямігодак. Нашу вёску казакі спалілі зараз пасля выезду жыхароў. Пасялілі нас у горадзе Цемнікаў Тамбоўскай губерні (цяпер у Мардоўскай Рэспубліцы). Жылі мы там добра: забяспечылі нам усе ўмовы і плацілі нейкія грошы на душу. Голаду там не было: вырошчвалі проса і бульбу, пшаніцы было мала. У школу я не хадзіў, бо хварэў на ногі, а потым прычапілася запаленне мазгавой абалонкі. Апрача рускіх жылі там татары і мардвіны.

На радзіму вярнуліся мы зімою 1921 года, якраз на Увядзенне. У Вульцы ўсё згарэла і спыніліся мы да вясны ў бабкі (маці маёй маці) у Парцаве. З Расеі прывезлі мы 30 кг саланіны, 5 пудоў жытняй мукі, 6 пудоў проса і 30 кг грэчкі. Чарговыя тры гады, да часу пакуль не паставілі сваю хатку, жылі мы ў Спічках. У школу хадзіў я толькі некалькі месяцаў — ад зімы да вясны — і выключна таму, што ў школе давалі суп.

Бацька прадаў тры дзесяціны зямлі на каленіі Антанова і купіў за гэта каня і карову. Людзі хадзілі ў самаробным драўляным абутку, а пасля толькі з'явіліся гумавыя боты.

У 1931-1932 гадах служыў я васемнаццаць месяцаў у 22 пяхотным палку ў Седльцах. У маёй кампаніі было 30 католікаў і 50 праваслаўных. Прысягу прымаў ад нас пры палявым алтары бацюшка ў званні палкоўніка. Потым перавялі мяне ў VI сапёрны батальён у Брэст і там служыў я дзесяць месяцаў у Брэсцкай крэпасці.

Ажаніўся я ў 1935 годзе з жанчынай са сваёй вёскі. Потым з'явіліся дзеці — трое дачок і сын. У маі 1938 года памёр бацька. У 1940 г. пачалі мы будаваць новую хату, а ставілі яе майстры Аляксандр і Сяргей Якубавы са Шчытоў.

Падчас акупацыі ў кафлярні ў Орлі стаялі нямецкія салдаты. Акупацыйная адміністрацыя наглядала за свінагадоўляй і селянін не мог закалоць вепрука без ейнага дазволу. Даводзілася скрываць лік свіней, каб потым нелегальна паесці свініога мяса. Аднойчы здарылася так, што нашы свінні, а было іх больш за дазволены лік, дайшлі да Парцава і там парылі збожжа на полі солтыса Дзенісюка, які аб гэтым далажыў немцам. Неадкладна прыехаў да нас немец Голь, які ведаў рускую мову, і паведаміў, што заўтра ў мяне будзе праведзены вобыск (гэта быў якісьці людскі чалавек, калі папярэдзіў аб небяспецы). Я са шваграм, Сяргеем Троцам, загналі тыя свінні за вёску, павязалі іх і схавалі ў збожжа. На другі дзень зрабілі ў мяне вобыск, але нічога не знайшлі. Назаўтра ўзялі мяне босага і ў адной кашулі на камісарыят і сталі дапытваць. Білі гумавай дубінкай да непрытомнасці. Ад гэтага ўсяго страціў я нервы, у галаве стала безупынна шумець. Некалькі месяцаў выходзіў я раніцай з дому, клаў галаву на расу і толькі тады адчуваў палёгку.

Пасля вайны, пры Беруце, мучылі сялян прымусовымі дзяржаўнымі пастаўкамі сельгаспрадуктаў. Ніхто не глядзеў ці ты сеяў, ці не сеяў, а толькі патрабавалі аддаць зерне. У мяне было тады 23 гектары зямлі, сям'я малая і не змог я выканаць плана паставак. Не памагло і тое, што належаў я да партыі. Войтам у Орлі быў тады Ваўрашук са Спічак. Вызывалі мяне ў гміну па прычыне невыканання паставак, а міліцыянт Казакевіч палохаў рэвальверам. Не было іншага выхаду і ў 1953 г. паехаў я ў Гданьск і там працаваў на чыгунцы да 1960 г. Калі сітуацыя на вёсцы стала больш нармальнай, вярнуўся я ў Вульку на гаспадарку, на якой працаваў да адыходу на пенсію. Тады было ўсяго тры пенсіянеры ў вёсцы.

У 1963 г. стаў я ахвярай чыгуначнай аварыі каля сваёй вёскі. Ехаў я фурманкай і на пераездзе кола наехала на слупок, а тут над'ехаў цягнік. З гэтага часу не магу нармальна варушыць шыяй. Цяпер хаджу з дапамогай палкі, але некалькі гадоў таму не карыстаўся я транспартам і пяць кіламетраў у Орлю хадзіў пешшу. Нядаўна на дарозе напалі на мяне нейкія хуліганы і трэба было ім аддаць грошы. Многа пры сабе не нашу, але дзесяць новых злотых забралі. Страх ужо нават на вуліцу выйсці.

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 10**

У 1908 годзе на старонках „Нашай нівы" ў далейшым з'яўляліся шматлікія публікацыі, звязаныя з жыццём беларусаў з усходняй Беласточчыны. Ужо ў першым нумары тыднёвіка ў рубрыцы „З Беларусі і Літвы" Халімон з-пад Пушчы надрукаваў досыць шырокія весткі з такіх вёсак як Пасынкі, Трасцянка, Кленікі, Гукавічы і Паўлы. Весткі пачыналіся абвяржэннем, якое датычыла ранейшай інфармацыі аб тым, што пасынкаўцы не згадзіліся даць 20 рублёў на бібліятэку. У сапраўднасці не Пасынкаўская, але Кленіцкая воласць адмоўна паставілася да ідэі фінансавання бібліятэкі. У гэтым жа нумары Халімон з-пад Пушчы змясціў вестку аб драматычным здарэнні, якое мела месца ў Трасьцяніцы (сённяшняй Трасцянцы). Аўтар гаворыць аб тым, што ў вёсцы згарэлі чатыры хаты. У сувязі з тым, што адзін з сялян ужо раней пагражаў, што падпаліць вяскоўцаў, узбураныя трасцянцы расправіліся з ім: „Калі пачаўся пажар, — піша публіцыст, — уся вёска збеглася да хаты таго мужыка, кажучы, што ён падпаліў. Той замкнуўся ў хаці, але азвярэўшыя мужыкі выламалі дзверы, выцягнулі мужыка і пачалі біць яго без міласердзя. Пасля, як ён ужо ледзьве дыхаў, злосная грамада павалакла яго к пажару і, раскачаўшы, кінула яго ў агонь".

Публіцыст заканчвае сваю інфармацыю разважаннямі аб сварках і нязгодзе ў сялянскім асяроддзі, якія адыгрываюць дэструктыўную ролю.

Вельмі цікавыя весткі змясціў Халімон з-пад Пушчы аб Кленіках. Ахарактарызаваў ён валасны сход, які — так як гэта было на пачатку 1907 года — на гэты раз акрэсліваў размеры заробкаў для мясцовага начальства. З інфармацыі даведваемся, што сход назначыў зарплату пісару ў размеры 480 рублёў у год, старшыну — 140 руб. Суддзям сяляне, як і ў мінулым годзе, не хацелі даваць нічога. Аднак даведаўшыся, што вышэйшая ўлада можа сама назначыць для іх зарплату, згадзіліся даць суддзям толькі па рублю ў месяц, а старшыні суда па дзесяць рублёў. На гэты раз кленікаўцы далі таксама на кватэру жандару 15 рублёў у год.

Новым у параўнанні з мінулагоднім прысудам сходу ў Кленіках было тое, што сабраныя прызналі грошы на кватэру мясцоваму фельчару.

„У вёсцы ёсць фэльчэр, аб каторым усе мужыкі ведаюць, што шмат людзям карысці прыносіць, бо ўжо 20 гадоў мае практыку. Дык яму сход прызначыў, як і жандару, 15 рублёў у год на кватэру, хаця гэта яму каштуе 40 рублёў.

Дрэнна, што цёмныя мужыкі шкадуюць найбольш грошай на тое, што для іх карысна".

Той жа аўтар у вестцы з Гукавічаў інфармаваў аб тым, што жыхары гэтай вёскі ніяк не могуць дамовіцца аб ліквідацыі цераспалосіцы і камасацыі зямлі. Падкрэсліў пры гэтым, што ў тых вёсках, дзе ўжо праведзена камасацыя, людзям жывецца намнога лепш чым раней.

З інфармацый Халімона з-пад Пушчы даведваемся таксама, што ў Паўлах былі арыштаваны два хлопцы, якія працуюць рабочымі ў Беластоку, што прывезлі да сваіх бацькоў антыўрадавыя пракламацыі.

У трэцім нумары „Нашай нівы" у рубрыцы „З Беларусі і Літвы" паявілася зноў серыя інфармацый Халімона з-пад Пушчы, якія датычылі самога Беластока, а таксама некалькіх беларускіх вёсак.

Гаворачы аб Беластоку, публіцыст досыць шырока прадставіў праявы крызісу ў беластоцкай тэкстыльнай і суконнай прамысловасці, назваў ён тых фабрыкантаў, якія скарачаюць прадукцыю або ўвогуле не спыняюць і выкідаюць рабочых на брук.

У другой публікацыі вядзецца гутарка аб ходзе камасацыі ў вёсцы Гукавічы. Даведваемся з яе, што хаця і з вялікім тармажэннем, жыхары згадзіліся на камасацыю і звязаным з ёю перасяленнем часткі жыхароў з вёскі ў тры пасёлкі.

У трэцяй інфармацыі Халімон з-пад Пушчы займаецца сходам у вёсцы Кленіках, праведзеным 12 студзеня 1908 года і прысвечаным вясковай бібліятэцы.

„Сход, — піша аўтар, — ішоў так, што стыд і сорам за яго ўсім мужыкам тутэйшым! І хто мог бы паверыць, што грамада старых людзей паслухае аднаго п'янага мужыка? А гэта і зрабілася на сходзе, каторы слухаў нейкага п'янюгі, што даводзіў: «нашто нам бібліятэка? — усе роўна кнігі не мае; лепш куплю за пяць злотых псалтыр, дык будзе ў мяне назаўсегды!»

Бібліятэка-чытальня ледзьве толькі пачала шырыць вакруг свой ясны свет, сеяць зерне дабра, праўды і навукі і вось людзі ўжо пачынаюць таптаць гэтую вялікую работу".

У гэтым жа нумары тыднёвіка была апублікавана вестка з вёскі Зубава, падпісаная, мабыць, псеўданімам — Іван Галодны. Яе аўтар паінфармаваў аб тым, што праваслаўны святар у Зубаве чытаў сялянам кнігу і заахвочваў іх гаспадарыць па-новаму. Сяляне ўспрымалі раду духоўнага крытычна, спасылаючыся на тое, што маюць вельмі мала зямлі, у апрацоўцы якой нельга нічога змяніць. Аўтар закончыў публікацыю зваротам да праваслаўных святароў і ксяндзоў дзейнічаць так актыўна, як дзейнічаюць уніяцкія духоўныя ў Галіцыі, ведучы шырокую асветніцкую, гаспадарчую і арганізацыйную дзейнасць.

**Алесь Барскі**

# Парнасік

## Сусветны жандар

ЗША — гэта жандар сусвету,
У якога галоўная мэта:
Закабаліць увесь свет і кінуць
пад свае ногі;
Гэта крывыя і д'ябальскія дарогі.
Восем гадоў таму „дабрадзеі"
„вызвалілі" Кувейт —
Гэта былі людскія слёзы,
абман і смех.
Амерыка толькі і выключна
Усюды крычыць пра свабоду гучна,
Але гэта была і ёсць прапаганда
і сіла,
Бо ў рух пайшла амерыканская
махіна.
Выключна сабе „вызвалілі"
нафту і сыравіну;
Гэта падарак Англіі і іншым
даравіны.
Бо Хусейн ім з-пад носа гэта забраў
І дулю ім пад сам нос даў.
Капіталісты страцілі вялікія
мільярды,
Таму нападзенне палічылі
„гуманным".
Хаця Хусейна на калені не паставілі,
Але свой „цырк" і ганьбу *адставілі*.
Выснова ў амерыканцаў дзівосная,
Хітрая, фальшывая і злосная.
Бо Хусейн не дапускае туды
кантроляў,
Дзе нібы прадукуюцца
смяротныя зброі.
Але чаму амерыканцы нікога
да сябе не дапускаюць,
А навонкі, нат дзе іголка ўпала,
усё знаюць?
Чаму Ізраілю дазваляюць усё рабіць,
Нават атамам можа бамбіць?
І цішыня ўсюды, і маўчок.
І Англія не адступае ад яе ні на крок;
Стары і новы імперыялізмы
светам правяць
І ўзброенага стальнога
крумкача славяць.
Францыя памяркоўная, але
не ў сілах нападзенне спыніць,
А ў Расіі *бардак*, дзе самі
не ведаюць як жыць.
Таму сусветны жандар
правіць бяскарна,
Таму лёс чалавецтва можа
быць марны.
Амерыка найлепшых навукоўцаў
сцягнула ў свой „рай" —
Рабі зброю найлепшую і зарабляй!
Так яна пра сваіх людзей дбае,
А чужых, у тым ліку і нас, *дзесь* мае.

**Мікалай Панфілюк**

## Смерць

Плывуць чорныя хмары.
Бліснула. Гром ударыў.
Сасна раздзерлася, упала,
У неба голле задрала.
Вятрыска дрэвы згінае,
Аж на зямлю палягаюць.
Бура прайшла, ціха стала.
Дрэвы сястру шкадавалі.

**Аўрора**

## Ігнатка

Быў Ігнатка, гаспадар,
Шчыра так стараўся,
Гаспадарку даглядаў,
Нікому не здаваўся.
А цяпер ён пастарэў,
Не зможа рабіці,
Трыста злотаў ён дастаў —
З таго мусіць жыці.
Трэба грошы так дзяліць
Ды кругом разглядацца,
Каб і хлеба сабе купіць,
І кашанкай падмацавацца.
Неяк там Ігнат жыве,
Свой век дажывае
І нашых „дэмакратаў"
Моцна праклінае.

**Мікалай Лук'янюк**

# Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. дрэнны пісьменнік, 3. Міхась, аўтар трылогіі „Ішоў дваццаты год" (1902—76), 5. горад між Балоньяй і Пармай, 7. Жан, французскі кампазітар (1683—1764), 9. даўганогая трапічная птушка з доўгаю крывою дзюбай, 10. так ад 1961 года да нядаўна называўся горад на 51,17° паўночнай шыраты і 71,47° усходняй даўгаты, 11. пляцоўка для ігры ў тэніс, 12. горная сістэма з вулканамі Сан-Педра, Місты і Катапахі, 14. дамашняя птушка, якую разводзяць для атрымання яек і мяса, 16. дзяржава, у якой дзяржаўнаю каталонская мова, 17. Іван, славенскі пісьменнік (1876—1918).

**Вертыкальна:** 1. Франсіска, іспанскі канкістадор Перу (1471—1541), 2. рэвалюцыйны псеўданім Сямёна Тэр-Петрасяна, супрацоўніка Леніна (1882—1922), 3. ілгунства, 4. Ян, латышскі паэт і драматург (1865—1929), 6. паўночнаіндыйскі алфавіт, 8. Вольфганг, аўстрыйскі кампазітар (1756—91), 9. горад на 7,38° паўночнай шыраты і 3,93° усходняй даўгаты, 11. Уладзімір, беларускі паэт (1910—71), 13. работнік радыё або тэлебачання, які выступае перад мікрафонам, 14. уліваецца ад захаду ў Каспійскае мора, 15. паслухмянае дзіця. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 52 нумара**

**Гарызантальна:** Сафокл, тундра, Акмола, іржа, рана, канібалізм, лато, ахоп, Кастар, намова, акоўка.

**Вертыкальна:** сапфір, клак, Тула, рабіна, мотабаліст, Жакато, размах, лавіна, оптыка, кава, арак.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Мікалаю Сазановічу** з Навінаў-Вялікіх і **Міхалу Байко** з Беластока.

# Вер — не вер

Астроне, шаноўны! Ты часта пішаш, што калі прысняцца боты, дык абазначаюць яны падарожжа.

Мне абутак сніцца таксама нярэдка. Вось не так даўно прыснілася, што мы з сяброўкай мералі нейкую новую вопратку. Я надзела на сябе прыгожую трыкатажную сукенку ў чырвона-жоўтую палоску, а пасля падабрала да яе боцікі. Боцікі былі высокія, залатога колеру, вельмі прыгожыя. Былі яны на нізкім абцасе, такія „афіцэркі". Хадзіць у іх было зручна. Я ўвесь час пакручвалася перад люстэркам і спаглядала на гэтыя боцікі.

А вось зусім нядаўна мне даслоўна цэлую ноч сніліся цалкам іншыя боты. Быў гэта абутак тыпу бацінак чорнага колеру. Панчохі быццам бы былі таксама чорныя. Я ні то спала, ні то так ляжала. У кожным разе была ў лежачай пазіцыі і бачыла толькі ногі ў гэтых бацінках. А яны былі — о Божа! — страшна зношаныя, парваныя. І ў кожным сне былі яны знішчаны на іншы лад. Найчасцей адрывалася падэшва. То я бачыла яе адарваную, то не магла ісці ў гэтых бацінках з-за таго, што яна адарвалася. То баціңкі былі з парванымі шнуркамі. То відаць было, што яны ўжо стапталіся і сцерся колер.

І ўяві сабе, Астронку, што праз дзень ці два мне паведамілі, што неспадзявана памёр мой даволі блізкі сябра. Ці той парваны абутак не мог прадвяшчаць гэта сумнае падарожжа — правады сябра?

**Міля**

Міля! Твой першы сон папярэджваў цябе аб нейкай радаснай падзеі, добрым падарожжы. Прыгожыя і зручныя залатыя боцікі, напэўна, выважалі табе нешта карыснае, чым ты абыйдзешся без нейкага фальшу (люстэрка).

Што датычыць другога сну, дык ты, здаецца, і сама яго разгадала трапна. Чорныя, быццам жалобныя, баціңкі і панчохі ўжо самі па сабе не прадвяшчалі добрага, а гаварылі пра нейкі сум, невясёлае падарожжа. А гэтыя ж баціңкі былі яшчэ парваныя і зношаныя, так, як і чалавек зношваецца, так як скончыў сваё жыццё і твой сябра.

**Астрон**

# Выйгрыш

Прыслалі на мой адрас паведамленне з Варшавы, што я апынуўся ў фінале нейкага розыгрышу і чакае мяне прэмія велічынёю ў дзвесце мільёнаў. Праўда, я ў ніякі розыгрыш не лез, бо ніколі мне не шанцуе; нават у таталётку на працягу дзесяці гадоў ні адненькай чацвёрачкі не ўдалося ўгануць. Падпісана тое паведамленне неразборліва, праўда, але затое самім дырэктарам фірмы, якая памяшчаецца ў паштовай схове ў самой Варшаве! І спісак прыслалі з трох асоб, дзе Эварыст Подпэмпкоўскі з Кракава, які выйграў ужо дзвесце мільёнаў, Генавефа Роск-Ладна з Лодзі, якая таксама настолькі ж пабагацела, і я — імя, прозвішча і вёска мае; няма ніякай памылкі! Рукою толькі падаць да вялікага шчасця! Каб тую прэмію атрымаць, трэба толькі мне яшчэ заказаць у іх розныя ашаламляльныя цуды на суму сама менш ста новых злотаў. А прапануюць жа яны мне ўсё найлепшае: настольную тэлевізійную антэну, якая вельмі папраўляе прыём перадач, крэм, які выгладжвае найстарэйшыя нават маршчыны, пілюлі для пахудзення, якія ў чатыры тыдні скідаюць без ніякай дыеты ўсе лішнія кілаграмы, гараскопы на цэлы год, розныя штучкі, якія заступаюць партнёра, мноства настольных і кухонных набораў; адным словам — усё, што патрэбнае чалавеку для адчування адное толькі раскошы. І яшчэ такія грошы ў дадатак!

Бог нетарапліві, але справядлівы: нарэшце мне пашанцавала, узрадаваўся я. І хутчэй, каб той дырэктар не раздумаўся, паслаў заказ на суму двухсот трынаццаці новых злотаў заказным пісьмом. Пасля двух тыдняў прыслалі мне і антэну, і каструлі, і рэзанатары, і пілюлі. Антэну паставіў на шафу, каб лепей яе відаць было, бо ніхто ў вёсцы яшчэ такое не мае. Рэзанатары схаваў на гарышча, каб унукі іх выпадкова не выцягнулі. Каструлі паставіў я між два тэлевізары, заміж трэцяга, які я таксама вынес на гарышча; тыя ўсе тэлевізары калісь папрывозіў ад саветаў мой зяць тэлевізарным цягнікам. Два трымаў у сябе ў горадзе, але паўгода таму ўзяў „на выплат" японскі, з пілотам, і свае старыя мне ў вёску прывёз. Ад тае навінкі ў іхняй хаце ўзнікла адно грызня: кожны хоча той пілот трымаць. Зяць мусіць не мог гэтага сцярпець, бо амаль перастаў дома паказвацца; гаварыў, што мусіць на рабоце аставацца, дарабляць на сплату таго тэлевізара. Аднак тры тыдні таму неспадзявана ўляцеў кулём у маю хату, каб пятнаццаць мільёнаў яму неадкладна... Нейкі злосны быў, нешта буркнуў пад носам пра трэці месяц, але ў чым дакладна справа — не хацеў гаварыць: сакрэт! Выбраў я ўсё з рахунка, дапазычыў у суседзяў і даў; бо як не даць, калі зяць любіць узяць?

Тыдзень таму пісьманосец прынёс мне пенсію і паехаў я ў горад пабачыць, што там дзеецца. Зяць ужо не ходзіць вечарамі на працу, кажа што сплаціў тэлевізар. Камень з сэрца мне зваліўся. Пераначаваў я там і дапоўдня дадому вярнуўся. Падыходжу толькі да фортачкі, і самаход побач затрымоўваецца. Вылазіць з яго падпанак і інфармуе, што я выйграў чайнік, але атрымаю яго, калі куплю яшчэ набор патэльняў. Не буду ж я адказвацца ад такое ўсмешкі лёсу; крыху грошай з пенсіі яшчэ асталося, узяў я тады тыя патэльні і дармовы ж чайнік, і дадому... А то яшчэ панок раздумаецца: калі я выйграў, тады ён прайграў! Але не — паехаў той разява далей. А я ўсе гэтыя трафеі — на гарышча, бо ў кухні няма ўжо месца іх трымаць.

Цяпер нецярпліва чакаю тую прэмію з Варшавы. Неяк доўга той добры дырэктар не прысылае яе, мусіць так скрупулёзна тыя грошы рахуе, бо ж многа іх. Нарэшце зажыву! Бо пенсія ўжо кончылася, на малако не хапае. Замалая яна, а ўрад не хоча падбавіць; розным махлярам і камбінатарам толькі дае, а пенсіянеру — абы на хлеб з вадою!

**Адам Маньяк**

Ніва

„Niwa", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax 435 022.

Druk: „ORTHDRUK", ul. Składowa 9, Białystok.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na II kwartał 1998 r. upływa 5 marca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na II kwartał 1998 r. wynosi 13 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2 zł, a kwartalnie — 26 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

Байка пра нашых

## Літаратурны вандалізм

Жыў-быў
Працоўны калектыў.
Працавалі ў ім паэты і паліглоты
Дый графаманы-вершаплёты.
Час-часом паэт старанны —
*Саюзны і аб'яднанны —*
Дзеля развесялення ватажкі
Хадзіў на Парнас па фрашкі.
Прыносіў іх у мяшочку,
Садзіў у левым куточку,
Фрашкі прымільна ўсміхаліся,
Палітыкай не займаліся.
Аж раз спакусіла паэта ліха
І на досвітку ён паціху
Люкс-таксі на Парнас заказаў
І люкс-фрашку сабе падабраў.
І прывёз у працоўны двор,
А там зразу зрабіўся фурор!
Бо тая фрашка-ляля
Мела адметныя *дэталі.*
І тут вершаплёты-графаманы
Паэту *саюзнаму і аб'яднаннаму*
Вырвалі фрашку з куточка,
Ды, сярод белага дзянёчка,
Ухапіліся за дэталі
І фрашку-лялю згвалтавалі.

**Адам Маньяк**

## Ваяка

Вандал — як Ван Дам.
Смяецца: — От я вам дам!
А сам не баіцца нікога,
Бо што каму да старога?
Хай рагоча, сівы дуралей:
Ганарар аддамо на Музей!

# Ніўка

*Мал. Алега КАРПОВІЧА*



## „Даўціпы” Андрэя Гаўрылюка

Пры Хрушчове настаўніца ў школе пытае Ваню:

— Якіх знаеш ворагаў народа?

— Кагановіч, Берыя, Хрушчоў...

— Колькі разоў маю табе гаварыць, каб не вывучаў урокаў наперад!?

* * *

— Якая розніца паміж Першамаем даваенным і пасляваенным?

— Да вайны ў паход ішлі тыя, якія не баяліся, а пасля вайны тыя, што баяліся.

* * *

Піянеры сустрэліся з бабуляй-ветэранкай:

— Бабулька, скажыце нам, як было пры Леніне, — просіць важаты.

— Як у метро: навокал цёмна, а ў воддалі святло.

— А пры Сталіне?

— Як у трамваі: пару сядзіць, а апошнія вісяць.

— А пры Гарбачове?

— Як у таксі: чым далей, тым даражэй.

* * *

— Ці канстытуцыя ПНР гарантавала свабоду выказвання?

— Так; толькі не гарантавала свабоды пасля выказвання.

* * *

На маскоўскім аэрадроме Брэжнеў з Касыгіным чакаюць прылёту дэлегацыі з братняй афрыканскай дзяржавы. Брэжнеў кідае манету:

— Герб ці рэшка? — пытае Касыгін.

— Герб.

— Тады за табою абавязак цалавацца з імі!

З гісторыі нацыяналістычнага руху на Беласточчыне

## „Падрыўны цэнтр” у Беластоку

Беларускае тэлебачанне зноў нагадала пра славуты бізнес-план на 32 мільёны амерыканскіх долараў.

Аказваецца, фінансаванне ўжо пачалося, і наша апазіцыя прыступіла да рэалізацыі гэтага плана, накіраванага на звяржэнне прэзідэнта Лукашэнкі. Па словах каментатара БТ, наступ пачнецца з тэрыторыі Польшчы. У горадзе Беластоку ўжо створаны магутны цэнтр, які будзе займацца падрыўной дзейнасцю ў Беларусі. Намеснік старшыні БНФ Вінцук Вячорка нават наведаў гэты цэнтр — дзеля таго, каб узгадніць з палякамі план дзяржаўнага перавароту. Такая вось „страшылка” прагучала пазаўчора ў інфармацыйнай праграме „Панарама”.

Дарэчы, наш карэспандэнт таксама быў разам з Вячоркам (і не толькі з ім) у беластоцкім „падрыўным цэнтры”. У гэты самы час там знаходзіўся і афіцыйны прадстаўнік беларускіх уладаў — Мікалай Крэчка, генеральны консул Беларусі ў Беластоку, якога запрасілі на адкрыццё цэнтра. Поўная назва арганізацыі гучыць так: Цэнтр грамадзянскай адукацыі „Польшча — Беларусь”. У склад рады, якая будзе кіраваць працай цэнтра, увайшлі вядомыя польскія палітыкі, дэпутаты сейма, міністры, пісьменнікі, журналісты. Прэзідэнтам цэнтра абраны былы дэпутат Сейма Артур Смулка, а намеснікамі сталі беластоцкія беларусы Алег Латышонак і Яўген Вапа. Цэнтр будзе займацца арганізацыяй сустрэчаў, семінараў, канферэнцыяў з удзелам беларускіх і польскіх палітыкаў, дзеячаў культуры, журналістаў, маладых актывістаў з самых розных грамадскіх арганізацыяў Беларусі і Польшчы. Цэнтр будзе месцам спаткання людзей, якім блізкія каштоўнасці дэмакратыі і свабоды.

Будзем спадзявацца, што наш генеральны консул Мікалай Крэчка, які два дні прысутнічаў на канферэнцыі ў „падрыўным цэнтры” і выказаў падзяку арганізатарам, знойдзе магчымасць, каб паведаміць Беларускаму тэлебачанню аб'ектыўную інфармацыю. Нельга ж так часта палохаць з экрана таварыша прэзідэнта і яго ных прыхільнікаў.

**Мікола Грынявіцкі** (*Свабода/Навіны*, № 14(9), 4.02.1998, **www.belarus.net**)

## Сардэчныя тайны

Не ведаеш, Сэрцайка, чаму хлопцы такія дурныя?

Было іх там трое тых, з якімі я найчасцей праводзіла час: хлопец, які мне вельмі падабаўся, яго бацька і яшчэ сябра хлопца, які адпачываў на іхняй дачы.

Здарылася ўсё гэта на вёсцы, дзе жыве мая цётка. Бацька завёз мяне да яе на лета. Пасяпахова здаўшы экзамены ў ліцэй, я нарэшце адчувала сябе прывольна — не было ні нерваў, ні цяжкай працы, як перад экзаменамі.

Як я ўжо сказала, было іх трое, але той, які мне спадабаўся найбольш, адносіўся да мяне больш па-сяброўску. Спадабаўся мне таксама яго бацька — яшчэ не стары чалавек. А трэці быў толькі летнім сябрам.

Часта мы сустракаліся на пляжы, купаліся ў возеры. Раз — бацька, а раз — сын каталі мяне на лодцы. Пры іх я хутка навучылася веславаць, а таксама лепш стала плаваць.

Як плаваў гэты бацька, кажу табе, Сэрцайка! Амаль увесь час батэрфляем. Ён раней быў маракам і, відаць, таму так добра плаваў.

Што датычыцца трэцяга, дык ён спортам не захапляўся. Крыху пакупаўся — і загараць. Але і ён быў прыемным хлопцам.

Хлопец, які прыехаў з бацькам, паводзіў сябе вельмі самаўпэўнена. Відаць было, што ён сабе цану ведае: кожная дзяўчына за ім пабяжыць! Задзіраў нос — можа, таму і спадабаўся мне найбольш. Быў такі непрыступны... А такія хлопцы наогул падабаюцца.

Бацька, відаць, таксама не любіў даравацъ дзяўчатам. І ён быў першы, які пацалаваў мяне ў губы. А ведаеш, Сэрцайка, нават было мне прыемна. Паплылі мы на лодцы далёка, а каля берага ў трыснягу мы затрымаліся і там ён мяне пацалаваў. Быў вельмі статны і ўмеў цалаваць.

На пляжы відаць было, што ён стараўся быць як найбліжэй мяне, увесь час нешта расказваў, быццам хацеў забавіць мяне. Хадзіў у краму, купляў там марожанае, частаваў мяне.

Я думаю, што хлопцы ўсё заўважылі, бо немагчыма было гэтага не заўважыць, хаця бацька быў вельмі далікатны. Яго сын пачаў бачней прыглядацца да мяне. І неўзабаве ён зрабіў тое самае, што і бацька. Сказаў, што пакатае мяне на лодцы, а ў зарасніках на беразе таксама накінуўся на мяне з пацалункамі. Дальбог, Сэрцайка, бацька цалаваў лепш, чым яго сын, і пасля гэтага інцыдэнта захапленне хлопцам пачало памалу гаснуць.

Толькі трэці, яго сябра, быў ціхі, маўклівы. Часамі спаглядаў на мяне палымяным позіркам, але нічога не гаварыў, не кідаўся да мяне ні з пацалункамі, ні з абдымкамі, нават за руку не ўзяў мяне ніколі. І я лічыла яго звычайным сябрам.

Бацька хлопца пацалаваў мяне адзін раз („Хадзі, я цябе пацалую!” — сказаў) і надалей быў надта мілы, хаця больш не прабаваў паўтарыць гэта. А яго сын быў як шалёны: усё хацеў ізноў плысці ў тыя кусты, а я не згаджалася. Думала: а чорт цябе ведае, што ты задумаў. Тады ён абразіўся на мяне.

І так надышоў час ад'езду. Мяне забралі дахаты першую. Мы цёпла развіталіся з усімі, я ім дала свой адрас, а яны мне свой.

Напісаў мне толькі той трэці. Неспадзявана прызнаўся мне ў каханні, пісаў, што гэта здарылася ўпершыню ў яго жыцці. Я нічога не магла зразумець і не разумею да сёння: той, што так лез да мяне, нават не адгукнуўся, а той, што больш маўчаў, напісаў аб каханні... Я яму, вядома, не адпісала, бо і навошта: я ж да яго ніякіх пачуццяў не мела.

І так я страціла арыентацыю. А зараз жа пачалася і школа. Дык толькі цяпер, на канікулах, знайшла я хвілінку, каб напісаць табе.

**Ірэна**

Ірэна! А што тут траціць арыентацыю? Усе яны былі не для цябе, і ты павінна зразумець гэта. Бацька (хаця быў культурным чалавекам, бо раз пацалаваў цябе і супакоіўся, разумеючы, што ты для яго — дзіця) быў не для цябе па ўзросце (а можа і жонку меў).

Яго сын, здаецца, хацеў „залічыць” цябе, як, пэўна, „залічыў” ужо не адну дзяўчыну (добра, што ты не выплыла ў наступны рэйс пасля тых пацалункаў).

А трэці, які цябе пакахаў, табе, на жаль, не спадабаўся. Вось і ўсё. Пасля канікулаў прыступай да пільнай вучобы. Ліцэй гэта табе не жартачкі!

**Сэрцайка**